# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1969
Студзень-
Люты

Год XVII
№ 1 (112)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1968 г.:

**У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.**

**У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.**

**У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.**

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:
Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:
Mr. Pituška, 31 Noble Str., Toronto, Ont. Canada.

У Нямеччыне:
Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

У Аўстраліі:
Mr. M. Nikan, 14 Steel Str., Spotswood — Melbourne, Vic. 14, Australia.

---

**Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:**

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.

**УВАГА:** Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XVII** **January-February** **№ 1 (112)**

**1969**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE, LONDON, N. 12.
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год XVII | СТУДЗЕНЬ—ЛЮТЫ | № 1 (112)

# Астранаўты

*«І ўчыніў Бог два вялікія сьвятлы: большае сьвяціла, каб адзначыць дзень і меншае сьвяціла, каб адзначыць ноч».*
(Быцьце І, 16)

Каляды 1968 году ўвайшлі ў гісторыю вельмі рызыкоўнай падзеяй трох амэрыканскіх астранаўтаў: палк. Бормана, маёра Андэрса і капітана Лёвэльля.

Як сьвет існуе, яшчэ ніхто ніколі не дасягнуў той сфэры, дзе дагэтуль панаваў уладарна лысы месяц. — А вось сяньня ўжо факт дакананы: прыблізіўся да яго чалавек на адлегласьць меншую чымся з Лёндану да Рыму або з Менску да Вільні. Зьняты здымкі з абодвух бакоў: з таго, які мы можам бачыць з зямлі і з другога, які заўсёды для нас цёмны.



*Жонка і сынок капітана Лёвэля*

А таму, што найважнейшыя мамэнты палёту былі паказаны праз тэлебачаньне, дык кожны цывілізаваны чалавек нейкім спосабам прыймаў удзел у гэтай імпрэзе.

Дыʼй было з чаго дзівіцца: і вучоныя і простыя людзі прызналі прадзіўны цуд тэхнікі, якая даканала ўсяго, што абяцала. І трэба верыць інфармацыі, што ў «Апольлё 8» было 40 мільёнаў частак, з якіх складаліся яго мадэрныя машыны, а над усім гэтым працавала пры будове 350,000 тэхнікаў!

Сапраўды, трэба дзівіцца з машынаў, але больш яшчэ з людзкога розуму, які ўпрог глупы сам па сабе інструмант да мэты, значэньне якой цяжка пераацаніць.

Значыць, пачалася новая эра-эпоха астранаўтыкі і палётаў у засьветы. Што гэтая эра прынясе чалавецтву, немагчыма прадбачыць. Усё будзе залежыць ад таго, ці чалавек захоча кіраваць новыя шляхі на дабро людзтва, ці можа на шкоду.

Аж дрыжыкі прабягаюць па скуры, калі падумаем, што тая самая ракета, якая незадоўга высадзіць людзей на месяц, можа такжа ў кожны закутак зямлі занесьці разбуральную атамную бомбу!...

*

У палёце «Апольлё 8» заўважылася і тое, што ёсьць неадлучнае чалавеку ў штодзённай працы і ў выдатным геройстве: мужнасьць духа астранаўтаў і іх праца дый пэратамленьне, неспакой і трывога жонак і дзяцей, пакора перад уладарнымі законамі прыроды і Божай магутнасьцяй, а таксама іхняя глыбокая вера.

*

Былі Каляды. Хрысьціянскі сьвет успамінаў бэтлеемскую зорку, маліўся за астранаўтаў і маліўся разам з імі. І адзін з іх, Борман, чытаў цудоўны кусочак з Бібліі — той спрадвечнай эпапэі — аб стварэньні сьвету, сонца, месяца, зорак і таго чалавека, які мае магчымасьць думаць і накіроўваць свае думкі, куды хоча.

Так дзіва тэхнікі і навукі знайшло апору ў жывой веры ў Бога. Як бачым, навука і рэлігія не змагаюцца і не разбураюць адна дру-

(Заканчэньне на 2 бач.)

*Я. Савіцкі*

# 3-яя вайна — і — канец сьвету

## IV СУСТРЭЧА Ў ЛЁНДАНЕ

Праходзячы вуліцай ў цэнтры Лёндану, а. Раман доўга прыпамінаў, што трэба купіць? Справа была важная, аднак ён цалкам забыўся, па што аж сюды зайшоў?

— Ну, і гора з гэтай старасьцяй! і вузёл на хусьцінцы завязаў . . .

І тым больш было няпрыемна, што ў маладосьці ўсе хвалілі ягоную памяць.

Але зара знайшоў раду: — Пайду ў унівэрсальны магазын: як гляну на тавары, дык зразу і прыпомню патрэбнае . . . —

Так яно і выйшла: як толькі глянуў на тавары, дык зараз апомніўся. Купіў патрэбнае і за кару сабе накупляў і лішняга. Толькі-ж мераўся выходзіць, як загаманіў да яго сам гаспадар магазыну, (знаёмы з вока), Нохэм бэн Давід:

— Выбачце, казаў ён, ці гэта Вы будзеце а. Раман, аб якім цяпер нашы нямала гавораць?

а. Раман: — Так, гэта я — той самы. А ў чым справа і чаму так мной цікавяцца?

Купец: — Бачыце, так зложылася, што гаманілі аб вашай размове з нашым рабінам — (тэмы вельмі паважныя) — аб Ізраілю і аб канцы сьвету, які — па вашаму — блізка пагражае . . .

— Калі можаце, зайдзіце, калі-ласка, на хвілінку да мяне ў кабінэт пры магазыне, бо маю — ў сувязі з рознымі іншымі падзеямі — справу асабістую, у якой якраз хацеў-бы з Вамі парадзіцца. І шчасьліва надарылася аказія з Вамі спаткацца.

а. Раман: — Ахвотна зайду да Вас — часу крыху маю і пастараюся Вам парадзіць, калі ў чым патраплю.

Калі праходзілі праз магазын, купец не бяз гордасьці паказваў размяшчэньне і тавары і ўмела ўсё падхваліваў: тут вялася продаж «унівэрсальная» ўсяго, што варта было купіць — тавар падручны і самы ходкі. а. Раман цікавіўся, дзівіўся і памяркоўна хваліў багасьце і парадак у клясыфікацыі аддзелаў вялікага магазыну. А купец усьміхаўся, прыймаючы пахвалы, як думаў, цалкам шчырыя і заслужаныя.

Як толькі заселі ў кабінэце, зара неспадзявана зьявілася гарбата, а гэта паказвала, што размова мае быць таварыская і ня зусім кароткая.

Купец: — Бачыце, дарагі госьць, якая здарылася неспадзяваная прыгода ў маім доме: пасьля нашай грамадзкай размовы ў суботу ля сынагогі, дома я мусіў расказаць аб усім сваей жонцы і пераканаўся, што яна ўжо чула аб гэтым, бо «жаночая пошта» спраўнейшая ад мужчынскае . . .

— Але Вы выбачце, што я хачу Вас уцягнуць у нашыя сямейныя адносіны, як у вас кажуць, «паспавядацца». — Гэта можа быць Вам дзіўна, што мы і незнаёмыя (хоць я з віду Вас знаю). — І Вы — сьвятар хрысьціянскі, а я — просты купец, але справа зачэпляецца за супольныя сусьветныя адносіны, а ў мяне — такая паважная справа . . . —

Купец Нохэм рабіў уражаньне чалавека інтарэсу: яму трудна было ўтрымацца з думкамі на адным пункце: гаворачы аб адным, ён ніколі ня выпускаў з увагі цэласьці сваіх гандлёвых інтарэсаў. Дык і гамоніць:

— Ну, выбачце! Я ўжо свабодны і нам ніхто не памяшае. А справа вось у чым: нас вельмі занепокоілі весткі аб канцы сьвету! Бо мы кожную суботу грунтоўна абмяркоўваем навіны з Ізраіля: ведама, мы гэтым дужа затурбаваліся. Але, як Вы гамоніце пра канец сьве-е-ту, ну, дык гэта горш-горшага!

— Тады там у нас некаторыя пачалі жартаваць; але самы паважны з нашых грамадзян, Абрам бэн Мардохай, адразу паўстрымаў лёгкія выбрыкі малодшых, кажучы: «Калі ня стане сьвету, то што нам бедаваць па Ізраілю?»

— І далей Абрам казаў: «Вы ведаеце, што мне баліць вока і трэба зара рабіць апэрацыю, (ён насіў павязку), а жонка і баіцца. Але, каб я цяпер памёр, дык яна забылася-б пра маё вока, а плакала-б аба мне . . . Але ў нас цяпер агульная з усім сьветам трывога — вісіць над галовамі атамная бомба; а мы бядуем толькі . . . аб Ізраілю, ці-ж гэта разумна? Я-ж за Ізраіля аддаў-бы абое вачэй, але што я аддам за цэлы сьвет?»

— Тады нашая дыскусія прыняла характар самы паважны — аж у канцы трывога

## АСТРАНАЎТЫ

(Заканчэньне з 1. бач.)

гую, але ўзаемна сабе памагаюць і падтрымліваюць.

На нашую думку гэта мае большае значэньне, чым самы дакананы палёт у небасхляпеньне. І гэта дае нам надзею і заруку, што чалавек у далейшым прагрэсе пойдзе шляхам не сваей пыхі і зазнайства, але шляхам велічных Божых Законаў, бо-ж існуе «Госпад, які дае сонца на асьвятленьне дня, а парадак месяца і зорак — на сьвятло ночаў . . .» (Эремія 31, 35).

абняла ўсю грамаду. Ставілі пытаньні, што рабіць? а нават, што аб гэтым думаць?

— Можа мы і дайшлі-б да якога высnаву, але ўмяшаўся новы элемэнт — жанчыны! Падхапілі справу на горача: «Гвалт, канец сьвету!»

— Як там у іншых хатах, мне ня важна, аднак у маей — проста падняўся гармідар! — Жонка напала на мяне: «Вы, мужчыны, пачынаеце рабіць канец сьвету! А ў нас — кажа — трое дзяцей, то табе нічога ня значыць: ты заняты магазынам. А ў мяне — кажа — ўсё шчасьце — гэта дзеці, нашыя дзеці, разумееш ты?»

— Ах, што я меў за клопат з ёй! Пачаў супакойваць, але дзе-ж там?! Яна адразу хапае справу практычна: «Што рабіць? і куды ўцякаць?» — Як-бы ад канца сьвету можна было-б куды ўцеч?..

— Ну, мне наагул з ёй трудна: я заняты, а тут жаночы лямант, бо яна як агонь! — Гавары, ёй адразу, куды падзецца? —

а. Раман: — Так, вялікі,немалы клопат! Усё-ж надта разумна, што вы падыйшлі да справы так паважна, бо і сапраўды, што нам па Ізраілю, калі дрыжыць уся плянэта? Трэба глыбока задумацца, што рабіць?... І ці можам мы мець які ўплыў на падзеі ўсяго сьвету?

— Але адносна жанчын трапна сказаў філязоф Шопэнгаўэр: «Жанчына — вялікае дзіця». Значыць, да іх трэба падыходзіць з дзіцячымі аргумантамі. А вашай паважанай жонцы скажыце, што канца сьвету тымчасам ня будзе, бо выбралі ў Амэрыцы новага прэзыдэнта, які ня хоча вайны, а бяз 3-цяй вайны канца сьвету зрабіць немагчыма...

Купец: — Дзякую! абавязкава так і скажу: гэткі аргумант, здаецца, будзе ў ейным стылю. — Ну, але цяпер, выбачце, ёсьць у нас і другая справа... (Буду гаманіць цішэй, бо тут — большая таямніца).

Тут крышку размову перарвалі. Купец на хвілінку звізытаваў магазын і сьцьвярдзіў, што там усё ідзе ў парадку. Аднак пасьпешна вярнуўся і загаманіў аб набалелым пытаньні.

Купец: — Я ўжо больш адрывацца ня буду! Мой памацнік — (ён мой пляменнік і працуе на працэнтах), мяне звольніў да самае ночы. Мы сабе цалкам давяраем, хоць і кантралюемся узаемна, а я часамі — дзеля выяздаў у гандлёвых справах — адлучаюся на цэлыя тыдні: цяпер зьбіраюся нават у Японію, калі ня будзе... канца сьвету.

— Дык вось прыступаю да выясьненьня нашых сямейных адносінаў. Бачыце, ў мяне з жонкай ўжо значны час трывае спрэчка наконт дзяцей; а пачалося ад гэтай, як кажуць, «цудоўнай» ці праклятай пігулкі.

— Мы чулі, што ў апошнім часе ваш Рымскі Папа выдаў ліст да ўсяго сьвету аб гэтай няшчаснай пігулцы. — Дык што Вы аб гэтым думаеце? бо падняўся страшэнны гармідар і бунт супраць Папы па ўсім сьвеце. Ну, мы не абавязаны слухаць вашага Папу; але я вельмі цікавы, на чым Папа абаснаваў сваю забарону? — Бо мая жонка кажа, што Папа надта разумны чалавек, калі даў такую забарону!

а. Раман: — Мне было-б цікава паслухаць, што наконт пігулкі гамоніць вашая жонка?

Купец: — Але Вы прынамсі ня дзівіцеся, што я — чалавек Вам незнаёмы і адменнае нацыі і рэлігіі — гавару і раджуся з Вамі аб справе такой ад Вас далёкай — маей асабістай! Аднак маю повады дастатковыя, бо то нібыта пачалося ад вашага Папы...

а. Раман: — Калі ласка! я Вас разумею; дый можаце сьмела лічыць на маю поўную дыскрэцыю. А ў падобных справах якраз лепш бывае гаварыць з некім далёкім і чужым, чым з блізкім і сваім.

Купец: — Ну, дык і файна! Буду гаманіць сьмела і адкрыта. —

— У нас, бачыце, пайшло аб чацьвёртае дзіця: я станоўка адказваюся, а яна цьвярдзіць іншае. Кажа: «Мая мама мела нас дзесяць і наказала мне, што нармальная сям'я — гэта мінімум 4-ра дзяцей, каб нашыя дзеці мелі сваё асяродзьдзя і сваю дружбу; а з чужымі спатыкацца толькі ў гасьцях, у сынагодзе у школе, ну і ў спорце ці ў агульных забавах. А я — кажа жонка — так люблю дзяцей, што радзіла-б іх як найболей! А ты — кажа мне — надта скупы, дык табе і Бог ня будзе памагаць».

— І яшчэ кажа: «Я такая здаровая, што дактары кажуць (а я не хаджу лячыцца, а толькі на праверку), што я бадай адзіная жанчына, ім ведамая, у якой няма абсалютна аніякіх дафэктаў! — Ты — яна кажа — толькі пабач, што я ніколі ня мела хворых зубоў, ані болю галавы; а дзеці ў мяне (так гаманілі дактары) вылушчываліся, як сьпелыя, здаровыя гарэхі!»

— Я-ж ёй кажу: «Цяпер сьвет стаў лішне густы і нагвалт трэба народ змяншаць, каб ня было голаду!» — А яна мне: «Вунь Гітлер загубіў нашых бацькоў і ўсіх родных. Толькі мы з табой шчасьліва ацалелі; дык нам трэба дэфіцыт нашага народу папоўніць і тут няма ніякіх адгаворак! — А я — яна кажа — пайшла замуж за чалавека, а не за пігулку: я — маладая жанчына (ёй 30 гадоў) і мушу мець дзяцей, каб быць нармальнай асобай, а не цацкай у мужа... Разумееш ты?»

— Я ўсё-ж прымусіў яе прыймаць пігулку і сам купіў ёй найлепшага гатунку; але яна па трох днях аднесла мне і кажа: «Лепш ужо сьмерць мне, чым гэтая атрута! Прыймай

сам, калі ня хочаш дзяцей!» — А я кажу ёй: «Гэта-ж жаночая пігулка . . .» А яна: «О, так! Вы, мужчыны, для нас выдумалі, каб нас труціць: хто гэта бачыў, каб здаровы чалавек прыймаў лякарства на нейкую няведамую хваробу ? ! Даўней рабілі дасьведчаньні на кроліках, на сабаках, на малпах; а цяпер — (Дзякуем!) — хочаце прабаваць на нас, жанчынах! . . . — Як ня хочаце дзяцей, дык выдумайце самі сабе такое лякарства!» — Вось і гавары з ёй! . . .

а. Раман: — Так, гісторыя цяжкая. — А Папа Павал ЎІ выдаў ліст-Энцыкліку да людзей «добрай волі». Асуджаюцца ўсялякія штучныя сродкі супраць пачацьця, асабліва аборты, а таксама і пігулкі. — Зрэшты пігулка аказалася сродкам шкодным для здароўя жанчыны, бо выбівае ейны арганізм з нармальнага рытму і стану.

Купец: — Ну-ну-ну! Прытым пайшла пагалоска, што жанчына пачала даваць сваю пігулку — для пробы — сваей сучцы ў пачатку ейнай бярэменнасьці. Дык тая стала худзець і чахнуць. І вэтэрынар ня мог адратаваць — аж шчэзла! А была яна з пароды вялікіх сабак. — Так гаманіла мне жонка, і наўкол іншыя тое балбаталі, што так падзеіла на навакольных жанчын — аж тыя паадкідалі сваё пігулкі!

а. Раман: — Так-так! На тое і выходзіць, як асьцерагаюць дактары, што чаргаваньне месячнага цыклю — гэта ёсьць праяў здароўя жанчыны, а таксама і добрага гумару. Іначай арганізм мусіць перахварэць і жанчына станецца ў некаторай ступені інвалідам, асабліва ў нэрвовым пачуцьці.

— І ў выніку такой курацыі жанчына становіцца нярэдка поўнасьцю бясплоднай. І здараецца нярэдка, што праз пігулку творыцца вялікая катастрофа: калі адзінае дзіця памірае і сям'я жадала-б мець другое дзіцятка, але жанчына ўжо бывае бяздзетнай . . .

— Або затруцьце арганізму адбіваецца на народжаных — пасьля пігулкі — дзецях, якія бываюць пачварамі — з вялікай галавою ці з няформеннымі рукамі-нагамі, або дзіця бывае недаўгавечным.

— І што наймацней палохае жанчын (скажу пад вялізным сакрэтам!), жанчыны пад уплывам пігулкі вельмі хутка старэюць і брыдчэюць або прыймаюць падабенства мужчын: пачынаюць расьці вусы і барада! І прытым у іх голас становіцца грубым-дзядоўскім . . .

Купец: — О, гэта ўсё вельмі цікава і проста абрыдліва! І я ўжо буду больш спагадлівы сваей жонцы, бо разумею, якая яна прадбачлівая, бо дасюль усе ейныя бунты я ўважаў за бесталковыя капрызы. Значыць, я павінен быць вельмі Вам удзячны за ласкавае выясьненьне. Бо мушу Вам прызнацца, што ў нас даходзіла да таго, што я пагражаў разводам. Праўда, гэта толькі так гаманілася, бо аб разводзе сур'ёзна я ніколі й ня думаў! — А яна адказвала: «Добра! лепш пайду ў развод, але без чацьвёртага дзіцяці я жыць не магу! . . .»

— Ну, што-ж? трэба жанчыне ўступіць. — Але што будзе далей? Каб хоць гэты раз быў сын! Бо ўжо ў нас ёсьць дзьве дачкі і адзін сынок, дый ён — ледзь пайшоў у школку — ўжо кажа: «Як вырасту, паеду ў Палестыну ваяваць з арабамі!» — І я стаю на раздарожжы: сьцеражы, Божа, з ім што станецца, дык я застануся без насьледніка. Якая-ж тады будзе мая старасьць і якая сьмерць? І як я пакажуся на той сьвет сваім продкам, не пакінуўшы патомка-сына?

а. Раман: — У дапаўненьні хачу Вам сказаць, што Папа забараніў штучныя сродкі на падставе сваей духоўнай улады ў Каталіцкай Царкве, як яе галава і найвышэйшы шэф. — Паводля нашае тэалёгіі Папа ёсьць Заступнікам Хрыста на зямлі і мае ўладу выдаваць пастановы ў маральным жыцьці ці адмяняць іх у духу Хрыстовым. — Дый у справе ўспомненых сродкаў не забараняе весьці далейшыя досьледы і дыскусіі. — Трэба ўсю праблему выясьніць рознастаронна і яна цяпер займае наймацнейшыя галовы на сьвеце — людзей, якія хочуць жыць па Божаму, а не па зьвярынаму. І так гэтая справа найбольш трывожыць далікатныя сумленьні чэсных людзей.

— А я ўсё-ж Вам раджу пагаманіць са знаўцамі-лекарамі наконт пігулкі і ейных вынікаў.

Купец: — Вельмі Вам дзякую! Кожны чалавек належыць ня толькі да сваей сям'і і да свайго народу, але ўваходзіць у агульначалавецкую супольнасьць; а інтарэсы чалавецтва важнейшыя ад нашых партыкулярных. — Праўда, трэба быць уважлівым да жанчыны, аднак і папускацца мужчына ня можа, каб не стаўся стаптаным пантофлем. Ну, бо Вы толькі падумайце! — Яна кажа: «Я — маладая, дык маю свае вымогі». — Але, калі пад камандай маей жонкі пачнуцца сыпацца дзеці кожны год адно або і двое, дык гэтак наваліцца на маю галаву калькаацацць новых людзей сям'і! Што-ж тады я павінен рабіць? Ну-у ? . .

а. Раман: — Пэўна, што трэба трымацца розуму і, як кажуць, «залатой сярэдзіны».

— Усё-ж уканцы я мушу адзначыць, што Эўропа лішне затрывожылася ўзростам насельніцтва і захапілася спакусьлівай пігулкай, а тымчасам тая прывабная пігулка больш неабходная каляровым расам, якія множацца як крокікі, а хлеба ўмнажаць ня

ўмеюць ці не стараюцца. Значыць, каб ратаваць іх ад голаду, трэба тасаваць самыя гераічныя і драконскія сродкі. — А белая раса нярэдка патрабуе падтрыманьня разросту, а не скарачваньня, як гэта было да вайны ў Францыі, якая ратавалася толькі эмігрантамі.

А калі-б прыйшло да лішкі народу, дык найперш трэба агранічыць наплыў чужаземцаў каляровых, чым карміцца пігулкамі.

*

Купец: — Выбачце, што я занепокоіў Вас сваімі прыватнымі справамі. Пэўна, карысьней было-б пагаманіць аб канцы сьвету, чым калупацца ў сямейных чужых спрэчках!

а. Раман: — Вашыя сямейныя справы якраз падобныя да клапотаў наагул ўсяго сьвету: каб іх апісаць так, як мы аб іх талкавалі, дык чыталася-б, як самы хвалюючы раман, бо ўсе падзеі яго наскрозь актуальныя.

Купец: — Так-так, гэта магчыма . . .

На тым і пачалі разьвітвацца як добрыя прыяцелі.

Купец: — Калі пазволіце, я кавалачак дарогі правяду Вас. — І вялікая шкода, што я ня мог Вас пазнаёміць з маей слаўнай жонкай, бо то мы аб ёй найбольш гаманілі!

а. Раман: — О, я надта быў-бы рады яе пазнаць! Пасьля такой рэзкай вашай крытыкі я ўяўляю, што гэта мусіць быць ідэал жонкі і жанчыны, а магчыма нават і найлепшы прыклад для матак, як выхоўваць дзяцей . . .

І трэба-ж таго, што выходзячы з магазыну, яны сустрэлі тую самую спадарыню, аб якой гаманілі! Купец прадставіў сваю жонку а. Раману, які замяніў з ёю пару словаў.

Купец: — Ну, як Вам паказалася мая ненаглядная жоначка пасьля маей суровай крытыкі?

а. Раман: — Толькі магу сказаць, што ніколі не паверыў-бы, каб яна мела 30 гадоў, як Вы гаварылі: найвышэй ёй можна даць дваццаць пяць.

— Купец: — Ці-ж гэта магчыма? Зрэшта, так і іншыя аб ёй гамоняць . . .

На гэтым і разьвіталіся.

*

Манах, ідучы дамоў, гаманіў сам сабе: «Апрача сымпатычнага выгляду, гэтая дама выказвае павагу разумнай і маестат маткі дзяцей, якія трымаліся за яе рукі».

Пасьля а. Раман даведаўся, што яна была прыкладнай выхавацелькай сваіх дзяцей: патрапляла злучыць станоўкасьць з свабодай, а таксама любоў з абавязкам.

Надыходзіў вечар. Сонейка скланялася на супачынак і было жоўта-бліскучае на ружова-ясным небе, але прыбліжалася да доўгае цёмнае хмары, што лежала на захадзе. Аж нейкі сум і жаль абыймаў душу, што такое мілае, ласкавае сонейка кідае апошнія праменьні ў нашым панурым Лёндане! Так яно тут рэдка паказваецца і фактычна ня сьвеціць, а толькі праглядвае з за хмараў . . .

а. Раман рабіў у душы параўнаньні: «Так яно бывае і ў падзеях цяперашняга насупленага сьвету: сьвет змарыўся начыста і душа ягоная зьнемаглася — аж цёмная пячаць лягла на абліччы ўсяго чалавецтва!».

---

*а. Ф. Журня*

# Катакомбы сьветчаць

*Хто ўважліва наведвае катакомбы, той знаходзіцца пад уражаньнем, што катакомбы жывыя і да людзей прамаўляюць. Яны сьветчаць аб глыбокай веры хрысьціянаў. З тых шматлікіх надпісаў і багатага мастацтва тых часаў мы пазнаём іхнюю веру і жыцьцё. Дзеля гэтага вучоныя шчыра гэтым заняліся — адкапалі і паказалі на дзённае сьвятло тыя скарбы старажытнасьці.*

*Бо якраз цяпер — пры агульным імкненьні да экумэнізму (лучнасьці хрысьціянства) — вельмі важна пазнаць і пабачыць, як верылі першыя хрысьціяне, бо яны былі найбліжэй да Хрыста і Яго Апосталаў ! . .*

I. АЛЕ ШТО ЗНАЧЫЦЬ СЛОВА «КАТАКОМБЫ»?

Катакомбы — падземныя калідоры, дзе хавалі целы памёршых, інакш кажучы, гэта былі падземныя магільнікі. Пагане пераважна палілі сваіх памёршых, але хрысьціяне — паводле жыдоўскага абычаю — клалі сваіх нябошчыкаў у пячоры, ў зямлю, як і Сам Хрыстос быў пахаваны.

Пад Рымам налічаюць 40 групаў катакомбаў, хоць яшчэ ня ўсе адкрытыя. Кожная група мае вялікі лік калідораў, якія разьбягаюцца ў розных напрамках і спускаюцца ў дол да 4-х і 5-ці паверхаў, а твораць сапраўдныя лябірынты, у якіх без праваднiка можна заблудзіць і загінуць.

Вышыня калідораў даходзіць да 3-х мэтраў, шырыня да 1-го мэтра, а даўжыня розная — да 17-ці км. — сьв. Калікста, 17 кілям. — сьв. Домітыльлі і 13 км. — сьв. Сэбастыяна. — Аблічаюць, што даўжыня ўсіх рымскіх катакомбаў даходзіць да 200 кілямэтраў!

Найважнейшымі катакомбамі лічацца сьв. Пятра на Ватыкане.

Усіх хрысьціян пахаваных у катакомбах лічаць да 750 тысяч. Паходзяць яны з усяго рымскага грамадзтва: ёсьць там бедныя і багатыя, вучоныя і простыя, нявольнікі і магутныя ўладай, нават з імпэратарскага асяродзьдзя як сьв. Домітыльля. Таксама людзі ўсялякай прафэсіі, артысты і з іншых галінаў мастацтва.

Усіх іх Хрыстос заклікаў да Сябе, нават на мучаніцкую сьмерць, — хто толькі меў добрую волю і палюбіў праўду.

У катакомбах хрысьціяне ня толькі хавалі сваіх памёршых, але і самі зьбіраліся перадусім на набажэнствы, асабліва ў часе прасьледу, які трываў каля 300 гадоў, таксама на малітвы і навукі аб праўдах веры. Для гэтага служылі большыя залы як быццам капліцы, а самыя слаўныя з іх і ведамыя: сьв. Сакрамантаў (Тайнаў), Рымскіх Папаў у катак. сьв. Калікста і інш.

## II. ШТО ГАВОРАЦЬ КАТАКОМБЫ АБ ПРАЎДАХ НАШАЕ ВЕРЫ?

Пра гэта мы можам даведацца з надпісаў і твораў мастацтва, якія там пакінулі першыя хрысьціяне. Возьмем толькі некаторыя праўды, бо немагчыма аб усіх напісаць, нават у кароткіх словах.

### 1) *Найсьв. Тройца.*

Гэтая праўда, хоць яе вельмі цяжка вытлумачыць чалавеку, была надта блізкая хрысьціянам: яны жадалі сваім памёршым, каб найхутчэй аглядалі Сьв. Тройцу ў небе. Таму ў надпісах азначалі свае жаданьні памёршым орзнымі знакамі — «сымбалямі», якія былі ведамыя хрысьціянам, а закрытыя для ворагаў, як літара грэцкая альфа, што анзачала самую Першую Істоту-Бога ці нават Сьвятую Тройцу: замест пісаць назву Бога, рысавалі адну літару «А» спосабам камбінаваным (у аднэй гравюры зьмяшчалі строеную літару, як ерагліф). Таксама імя Хрыста выражалі злучанымі грэцкімі «ХР» як літару адну. — Напр. «Хр Леонія А», што азначала «Леонія, будзь з Хрыстом і з Сьв. Тройцаю!»

Таксама ўжывалі сымбаль Хрыста і хрысьціянаў, калі рысавалі рыбу — (вялікая рыба азначала Хрыста, а маленькія — вернікаў): гэты сымбаль быў камбінацыяй грэцкага слова «Іхтіс» — рыба, а тыя літары азначалі «Ісус Хрыстос Бог (Тэос), Збаўца (Сотэр)». Па гэтым слове і па самым рысунку рыбы хрысьціяне пазнаваліся між сабою, а ня былі пазнаваныя ворагам (І-Х-Т-І-С).

Падобным сымбалем быў якар з крыжам увярху, як знак збаўленьня, і як надзея на неба з немарасьці гэтага неспакойнага і небасьпечнага жыцьця, — асабліва падчас прасьледу хрысьціянства: былі-ж такія пэрыяды, калі рымскія ўлады вылоўлівалі вернікаў, крыжавалі, кідалі на арэнах дзікім галодным зьвяром і мучылі найстрашнейшымі спосабамі, каб давесьці да адрачэньня веры.

Вельмі прыгожы сымбаль у катакомбах быў «Добры Пастыр» — Хрыстос з авечкай на плячах або між стадам авечак: ведама, авечка азначала верную душу. І гэтыя «авечкі» — ціхія і пакорныя ішлі ахвотна пад паганскі нож і меч, пад розгі і бічы; нярэдка з жывых зьдзіралі скуру, адсякалі рукі-ногі і інш. прычынялі мукі.

Апрача сымбалічных знакаў і абразоў бачыцца яшчэ ў катакомбах нямала сцэнаў з Хрыстовага жыцьця: паклон Магаў (Трох Каралёў), хрост Ісуса Хрыста ў Ярдане, ускрашэньне Лазара, размнажэньне хлябоў і інш.

Наконт знакаў яшчэ трэба ўспомніць частае ўжываньне літараў А і О, грэцкіх Альфа і Омэга: гэтыя — першая і апошняя літары альфабэту, якія азначаюць пачатак і канец, хрысьціяне ўжывалі як азнаку Хрыста-Збаўцу. Так пісалі: «Жыві ў А» або «Хай жыве ў О!» Што азначала жыцьцё ў Хрысьце.

### 2) *Дзева Марыя-Багародзіца. Хрост і Эўхарыстыя.*

Божая Маці зьяўляецца ў надпісах і мастацтве катакомбаў ужо ў 2-ой палавіне II-га стагодзьдзя і заўсёды з Божым Дзіцяткам, найчасьцей ў сцэне паклону трох Магаў: гэтым выяўлялася вера ў яе, як Багародзіцу, бо Сьвятое Дзіцятка заўсёды ўважылі як Божага Сына. Такі абраз спатыкаем у катакомбах сьв. Прысцыльлі, у грэцкай капліцы. Імя Дзевы Марыі азначалі літарай М і лучылі з сымбалем Хрыста: «М-Х».

Х р о с т. Гэта першы Сакрамант-Тайна хрысьціянства: праз Хрост чалавек увайходзіў у Царкву і лічыўся вернікам. У розных сымбалях хрысьціяне стараліся выразіць сваю веру ў Хрыста. Аб рыбах — IXTIC-мы ўжо гаварылі. Нярэдка ў малюнках бачыцца Хрыста, асабліва ягоны хрост у рацэ Ёрдане.

Эўхарыстыя. Гэта найбольш улюблёны прадмет малюнкаў у катакомбах. І многа малюнкаў аб Эўхарыстыі спатыкаем у катакомбах сьв. Калікста — ў капліцы Сакрамантаў. Тут і ў іншых месцах бачым сымбалі Цела і Крыві Гасподняе — хлеб, віно і рыбу — ці напоўненыя гэтым кошыкі, кашолкі ці іншая пасудзіна.. Пры гэтым бачым ча-

лавека, які паднятаю рукой багаславіць гэтыя дары: гэта ёсьць абраз або сымбаль Хрыста, Які багаславіць Сьвятыя Дары — асьвячае і кансэкруе іх. А з другога боку звыкла стаіць «оранс», асоба, якая фігуруе сабой сьв. Царкву, і пры гэтым моліцца за верны народ.

3) *Вечнае жыцьцё.*

Гэтае жыцьцё было для першых хрысьціян нечым вельмі блізкім і дарагім: яны ўжо на зямлі жылі ім і пра яго думалі. Яны нават спадзяваліся блізкага прыходу Хрыста на апошні Суд.

Гэта была надзейная і глыбокая туга па Хрысьце, высказаная сьв. Янам Багасловам (Эвангелістам): «Прыходзь, Госпадзе Ісусе!» (Апок. 22, 20). Яна глыбока запала ў душы хрысьціянаў, бо яны перажывалі страшэнны прасьлед ад жыдоў і паганаў, а навокал іх валадала дэмаралізацыя, ад чаго яны жадалі найскарэй звольніцца. Нават вонкава шыкаваліся самі на прыход Хрыста: ладзілі для Яго трон, клалі карону і жазло; маліліся, плакалі і чакалі.



*Добры пастыр» — на саркафагу ў катакомбах св. Сэбастыяна*

Таксама высказвалі сваю веру і надзею на загробнае блізкае жыцьцё мастацтвам і надпісамі на магілах.

У катакомбах былі таксама і пагане: тут бачым, якая вялікая была розьніца ў ацэнцы загробнага жыцьця між імі і хрысьціянамі. На паганскіх магільных плітах надпісы выражаюць тугу і сум па сваіх блізкіх памёршых, але яны не маюць яснае надзеі і ня могуць нічым памагчы пасьля сьмерці сваім родным і прыяцелям. — Наадварот хрысьціяне выражаюць пэўную надзею, а часта нават радасьць у надпісах і сымбалях, бо спадзяюцца, што памёршы, а тымбольш замучаны за веру атрымаў вялікую нагароду ў Хрысьце і што чакае ўсіх агульнае шчасьце ў небе і радаснае спатканьне.

Вера першых хрысьціянаў была жывая, пранікала наскрозь іх душы нават у штодзённых справах. Жывучы сярод падобнага да нашага сьвету, поўнага нязгоды і ненавісьці, разбэшчанага і сапсаванага маральна, яны сьцерагліся нават малых грахоў і на зямлі, прабывалі як-бы ў небе.

Вельмі характэрны і павучальны надпіс ёсьць на адным саркафагу ў Лятэранскім музэі. Хрысьціянін Альбэртіюс піша: што ён быў вучням «Нявіннага Пастыра (Хрыста),



*Якар у форме крыжа — гэта сымбаль Хрыста, а рыбкі — злоўленыя вернікі*

Якога вялікія вочы бачаць ува ўсіх напрамках».

Гэты Пастыр навучыў яго «вернага Пісьма (Сьв. Пісьма), паслаў яго ў Рым. Там ён бачыў маючых на сабе пячаць, якая сьвяціла

блескам», (гэта азначала сьв. Хрост)... — У сваей падарожы ён сустракаў таварышаў (хрысьціянаў)... «Вера была маім праваднікам і дзеколечы я пайшоў, яна абясьпечвала мяне ежай: гэта была вялікая Рыба, якую злавіла Чыстая Дзева (Марыя) і яна заўсёды давала гэта есьці сваім прыяцелям. Мела таксама вельмі добрае Віно зьмешанае з вадою, давала гэта з Хлебам».

Бяз сумніву такімі інасказальнымі словамі аўтар тут называе сымбалічна глыбокія тайніцы хрысьціянскае веры, як Хрост і Эўхарыстыя.

*

З усяго, што мы гаварылі, бачым, як хрысьціяне верылі і жылі тымі самымі праўдамі, якія мы і цяпер прызнаём і Хрыстовая Царква навучае. І тут спаўняюцца словы сьв. Пісьма: «Памінайце настаўнікаў вашых, якія казалі вам Божае слова. І, пазіраючы на сканчэньне жыцьця іх, пераймайце веру. — Ісус Хрыстос учора і сягоньня Той Самы дый навекі». (Да жыдоў 13, 7—8).

# Пётр Мсціславец

Пётр Мсціславец паходзіў з усходняй Беларусі і ў ягоным стылі адчуваецца моцны бізантыйскі ўплыў. Былі робленыя прыпушчэньні, быццам ён быў вучнем Скарыны перад тым, чым пачаць супольную выдавецкую працу з Іванам Фёдаравым, перш у Маскве (1564—65 г.) а пасьля на Беларусі ў Заблудаве, дзе ў 1569 г. яны выдалі Евангелле вучыцельнае. Хутка пасьля гэтага Мсціславец пераехаў у Вільню, дзе распачаў працу ў новаадчыненай друкарні Мамонічаў. Ён выдаў там тры кнігі: Евангельле (1575 г.), Псалтыр і Часоўнік (1576 г.). Хоць у выданьнях Мсціслаўца адчуваецца пэўны уплыў Скарыны, аднак пад мастацкім поглядам стаяць яны — асабліва гравюры, — далёка ніжэй за творы ягонага геніяльнага папярэдніка. Сумесь бізантыйскіх іканаграфічных формаў з адкрыта дэкадэнцкімі матывамі пазьнейшага рэнэсансу ствараюць непрыемнае ўражаньне павярхоўнасьці і штучнасьці. Тым ня меньш, некаторыя ягоныя дэкаратыўныя кампазыцыі, як напр. рамкі вакол гравюр св. Марка і св. Яна, ёсьць даволі прыгожыя, і ангел у гравюры св. Мацея мае сваю прывабнасьць. Працы Мсьціслаўца зьяўляюцца даволі павучальным, але ня вельмі захапляючым прыкладам беларускага графічнага мастацтва XVI-га стагодзьдзя.



*Св. Ян*



*Св. Марк*

*Ян Пятроўскі*

# З нагоды друку беларускае энцыкляпэдыі

У апошнім часе беларуская прэса што раз часьцей гаворыць пра Бел. Энцыкляпэдыю. Даведваемся, што Цэнтральны камітэт Беларускае кам. партыі прыняў пастанову выдаць беларускую энцыкляпэдыю.

З усіх выказваньняў прэсы прабівае тон важнасьці для народу ўласнае энцыкляпэдыі.

Нічога затым дзіўнага, што ў чытаючага гэтыя паведамленьні могуць паўстаць пытаньні: Чым энцыкляпэдыя зьяўляецца і якое яна мае значэньне?

Дзіўнае — на першы сугук — слова «энцыкляпэдыя» складаецца з трох грэцкіх словаў: Enkyklos-puideia — «у крузе асьветы» або «поўны круг фактаў» навуковага характару і замыкае ў сабе інфармацыі з дадзенае галіны навукі або ўсіх яе галінаў, узятых разам. Дык ужо само слова «энцыкляпэдыя» кажа нам, што гэта мусіць быць адна з найболей паважных працаў гэткага роду.

Што гэта ёсьць так, можа служыць ілюстрацыяй наступнае:

Перада мною ляжыць слоўнік іншамоўных выражэньняў, памерам 700 бачынаў большае васьмёркі, ахопліваючы сабою 17.000 словаў. Гэты слоўнік апрацоўвалі навукоўцы: дактары, дацэнты, інжынеры, кандыдаты навукі, кансультанты, лексыкографы, магістры, мовазнаўцы, прафэсары, рэдактары, рэжысэры, этымалёгі, філялёгі — у вагульным ліку 123-х чалавек.

Калі гэтакі лік людзей быў патрэбны дзеля апрацаваньня аднае кніжкі, дык колькі-ж мусіць быць змабілізавана вучоных, каб стварыць энцыкляпэдыю, хаця-бы на 25 томаў, не гаворачы пра 168 томаў, якія ўвайшлі ў адну із нямецкіх энцыкляпэдыяў ! ?

*

Найранейшымі, калі гэтак можна назваць, энцыкляпэдыямі былі звычайныя трактаты, якія мелі на мэце чытаньне і навуку. Гаворыцца, што першую энцыкляпэдыю ўлажыў у IV стагодзьдзі перад нашаю эрай грэцкі філёзоф Спэусыппос, вучань і пляменнік Плятона, але апрача гэтае весткі нічога з яе да нас не дайшло.

А першым з рымлянаў быў Маркус Тэрэнтыюс Варро, арганізатар і кіраўнік вялікае, запляняванае Цэзарам, бібліятэкі, аўтар шматлікіх працаў, які ў II-ім стагодзьдзі нашае эры ўклаў «Disciplinarum Libri IX» — энцыкляпэдыю свабодных навукаў у 9 кнігах, з чаго па аднэй кнізе прыпадала на наступныя прадметы: граматыка, дыялектыка, рэторыка, геамэтрыя, арытмэтыка, астралёгія, музыка, мэдыцына і архітэктура. Ягоная праца «Rerum Humanarum et Divinarum Antiquitates» у 41 кнізе займаецца раманскаю старажытнасьцяй.



Св. Мацей



Св. Лукаш

З гэтых працаў нічога не ацалела.

Найстарэйшую вялікую энцыкляпэдыю — «Historia Naturalis» — у галіне натуразнаўства і мастацтва, якая захавалася да нашага часу, у 37-мі кнігах з 2493 разьдзеламі, стварыў Пліні Старшы ў 23—79 гадох нашай эры.

У часе паміж V і XIII стагодзьдзямі было створана некалькі паважных кампіляцыяў у форме энцыкляпэдыі.

А з усіх ранейшага пэрыяду найважнейшая ёсьць «Bibliotheca Mundi», званая гэтаксама «Speculum Majus», уложаная ў XIII ст. дамініканскім манахам, Вінцэнтам з Бова, 80 кнігаў з выразнай тэндэнцыяй зацікавіць клясычнай літаратурай, якая з гэтага часу стаецца прыкладам для шматлікіх укладальнікаў падобных працаў.

У 1559 г. была выдана праца Паўла Скаліха, у якой першы раз было ўзята слова «Энцыкляпэдыя».

Для ўсіх гэтага роду працаў, ня гледзячы на іхную важнасьць, адно астаецца для іх характэрным: усе яны болей-меней, былі несыстэматычнымі, а часта нават і хаотычнымі ў укладзе мтар'ялу, як і ня вытрыманымі ў выпрацаваньні самое тэматыкі. І толькі пад канец XVI стаг. справа прыняла болей памысны зварот.

Францiск Бэкон (1561—1626), ангельскі філёзоф і дзяржаўны муж, чалавек вялікай адукацыі, аўтар шматлікіх працаў, першы запраектаваў, хоць сам не правёў да канца, «Instauratio Magna», або энцыкляпэдыю ўсенькае веды, якая ўважаецца многімі за першую спробу гэтага роду працы.

Пераход ад старога тыпу энцыкляпэдыі да новага прыпадае на век асьвечаньня, а пальма гонару аддаецца людзям, званымі энцыкляпэдыстамі — групе філёзафаў і вучоных, засяроджаных навакол выдаванае ў Францыі ў гадох 1751—1780, (Дідро і д'Алямбэрт), «Энцыкляпэдыі», якая згуляла вялікую ролю ў разьвіцьці ідэялёгіі паступовага мяшчанства ў змаганьні супроць фэўдалізму і іншых формаў уціску. З гэтае пары энцыкляпэдыя стаецца поўным зборнікам матар'ялу агульнае веды, на які можна паклікацца.

У XVIII і XIX стаг. разьвіваюцца нямецкія энцыкляпэдыі, якія сваім абыймом і апрацаваньнем ня ўступаюць найлепшым у Эўропе, а гісторыя разьвіцьця іх мае некаторыя характэрныя мамэнты.

Гэтак у 1892 выходзіць Іоганна Іоахіма Эшэнбурга «Lehrbuch der Wissenschaftskunde».

Фэнаменальная сваім размахам і абсягам матар'ялу зьяўляецца манаграфічная нямецкая «Allgemeine Encyclopädie», выдадзеная Эршам і Грубэрам. Праца над яе выданьнем пачалася ў 1818 годзе і яе 168-мы і апошні том выйшаў з друку ў 1914.

*

Сягоньня ўсе культурныя і свабодныя народы сьвету маюць свае энцыкляпэдыі.

Злучаныя Штаты Паўночнае Амэрыкі маюць іх некалькі, з якіх варта ўспомніць «Encyclopedia Americana». У англамоўным сьвеце вялікай пашанай цешыцца шматтомная «Encyclopaedia Britannica», якая ў адным томе была выдадзена ў 1768 годзе і з гэтай прычыны ў бягучым годзе абыходзіць свой 200 юбілей.

Адною з важных характэрыстык сучаснае энцыкляпэдыі ёсьць супраца вялізарнае групы аднамысьнікаў, якія рэпрэзэнтуюць усе галіны навукі, наяўнасьць сучаснага друкарскага мастацтва як і вялікія магчымасьці ілюстрацыі.

Праца над стварэньнем энцыкляпэдыі — вялізная, якая фактычна ніколі ня можа быць скончанай. Бо ў тым самым часе, калі апошні друкарскі аркуш выходзіць з-пад прэсу, гісторыя далей снуе бясконцыя факты ў форме новых адкрыцьцяў і вынаходаў, навальніцаў і землятрусаў, пачатку і заканчэньня войнаў, нараджэньня і сьмерці мудрых і нямудрых, добрых і дрэнных людзей, якія ў той ці іншай меры пакідаюць па сабе сьлед... Пераважна ўсе гэтыя факты на працягу году зьбіраюцца ў асобную кнігу, як дапаўненьне для энцыкляпэдыі ў часе паміж выданьнямі, з тым, каб пасьля некалькіх гадоў увайсьці ў цэласьць наступнага выданьня. Пасьля гэтага адбываецца той самы працэс зноў і г. д. і гэтак без канца...

*

Энцыкляпэдысты ўсіх народаў і рэзультат іхнага намаганьня — энцыкляпэдыя — гэта ёсьць той фактар, які пракладаў для чалавека і сягоньня пракладае новыя дарогі да пазнаньня, да свабоды і да шчасьця.

*

Перад беларускімі ўкладальнікамі энцыкляпэдыі, у ведамых абставінах, будуць уздымацца горы перашкодаў. А перашкоды родзяцца з прычыны спляценьня шматлікіх фактараў, як: энцыкляпэдыя мае быць праўдамоўнай, прытым трэба зважаць на сумленьне беларускіх укладальнікаў, на інгерэнцыю кам. партыі і на прысутнасьць расейскага чынніка і інш.

Ня гледзячы на ўсе фактары, якія могуць быць наяўнымі пры ўкладаньні Беларускае Энцыкляпэдыі і, не зважаючы на тое, якое будзе апошняе падсумаваньне ўсяе працы, мы вітаем выхад у сьвет беларускае энцыкляпэдыі, як яшчэ аднаго фактару ў стабілізацыі беларускасьці, у пары, калі на ўсім сьвеце гэтак наяўнай ёсьць тэндэнцыя ў напрамку свабоды, роўнасьці і братэрства.

24 лістапада 1968

# З царкоўнага жыцьця

II-і ДЗЕНЬ СУСЬВЕТНАГА МІРУ. 1968 году 1-га студня быў першым днём міру пасьвячаным супакою на ўсім сьвеце. Сёлета, ў 1969 г., сьвяткуем таксама ДЗЕНЬ МІРУ. З нагоды дня яшчэ перад Калядамі зьвярнуўся Папа праз радыё і тэлебачаньне з гарачым заклікам да цэлага сьвету пра супакой.

Ад 1965 г., калі Папа выступаў перад Арганізацыяй Аб'едн. Нацыяў у Нью Ёрку, не гаварыў ён ніколі датуль з такой сілай перакананьня і з трывогай пра будучыню сьвету, як тым разам! Ягоны заклік, перададзены на цэлы сьвет праз радыё Ватыкану на розных мовах, моцна адзначаў ня толькі патрэбу супакою на сьвеце, але і патрэбу працы і коштаў, каб гэты супакой асягнуць.

«Супакой — казаў Папа — трэба палюбіць, трэба яго хацець, яго выпрацаваць. Ні прадузятыя дагаворы, ні перавага сілы, ані пасьпяховыя заваяваньні ня бываюць гваранцыяй супакою, «годнага сваей назвы. Калі хочаце супакою, дык выкіньце з рук аружжа!».

«Супакой ёсьць патрэбны, каб чалавек меў загарантаванае права да жыцьця, вольнасьці, роўнасьці і культуры, каб мог цешыцца дабрадзействам цывілізацыі і прызнаньнем яго асабістай і грамадзкай годнасьці. Дзе няма супакою, там права траціць свой людзкі характар».

«Дзе права чалавека не шануецца і дзе яго не бароняць, ані ўводзяць у жыцьцё, там гвалт і подступ адбіраюць чалавеку вольнасьць».

«Дзе годнасьць чалавека ня прызнаецца і памяншаецца, дзе валадае дыскрымінацыя, нявольніцтва і неталеранцыя, там няма супакою. Супакой і права адносна і ўзаемна маюцца да сябе так, як прычына і рэзультат».

Папа не ўваходзіць у дэталі, хто вінаваты, а хто не: гэта да яго не належыць, але заклікае абедзьве староны, каб рашалі свае спрэчкі ў духу справядлівасьці і зразуменьня адзін другога ў духу добрае волі.

«Супакой — кажа Папа — ёсьць мроя-лятуценьке, але гэтая мара можа споўніцца, калі адзінкі і народы згодяцца адкінуць спаборніцтва ў збраеньні, анархію ў выступах адзін супраць другога і палітыку заваяваньня і гвалту. Супакой ёсьць абавязкам і асноўным ідэалам, годным усяго чалавецтва».

«Існаваньне чалавецтва ёсьць загрожанае зброяй масавага зьнішчэньня, што зацягвае над сьветам цёмныя хмары тэрору і шаленства. З вялікай турботай наглядаем, як сучасны чалавек, глухі як енк беднага, будуе грамадзкае і дзяржаўнае жыцьцё, абапёртае толькі на матар'яльным дабрабыце — такое жыцьцё, якое не мае ніякіх вышэйшых ідэалаў. З болем сэрца глядзім, як зьнішчаюцца гістарычныя, культурныя і маральныя вартасьці — з вялікай шкодай для ўсяго людзкога роду».

Таксама вялікі жаль выказаў Папа да літаратуры і іншых галінаў мастацтва, што ствараюць візію чалавека, самалюбна здаволенага са свайго дабрабыту і выгодаў — чалавека бяз ніякае глыбейшае думкі.

Зьвярнуўся Папа з заклікам да моладзі, якая больш чулая на справядлівасьць і мае нямала энтузіязму да ўсяго новага, каб яна пасьвяціла сваю энэргію справе супакою на сьвеце, абапёртага на справядлівасьці.

Але пры гэтым адносна моладзі выказаў Папа сумную і глыбокую заўвагу: «Погляд моладзі, які звыкла ёсьць жывы і ясны, стаўся прыцемнены таму, што ніколі яе ня вучылі абсалютных прынцыпаў, а сыстэматычна прышчэплівалі ёй сумніваньне і недаверства. Дык пратэсты мола-

---

ДУМКІ З КНІГІ «СЬЛЕДАМ ЗА ХРЫСТОМ»

*(Кніжка І-ая, разьдзел (20—23)*

Хто хоча пачаць жыць унутрана і духова, трэба, каб адыйшоў з Богам ад людзкога натоўпу.

Ніхто варт ня будзе нябеснае пацехі, калі пільна не пачне каяцца за грахі.

Лепш чалавеку быць няведамым і старацца аб сваю душу чымся цуды рабіць, а забывацца аб душы сваей.

Калі-б ты й пабачыў усенькі сьвет, дык што-ж гэта было-бы? марная здань ды толькі.

Кайся шчырым сэрцам за грахі, дык і пабожнасьць знайдзеш.

Няма ані сапраўднае свабоды, ані добрае радасьці, як толькі ў Божай боязні ды ў спакойным сумленьні.

Ня лезь у чужыя справы!

Няшчасны будзеш, дзе-б ты ні быў і куды-б ні скіраваўся, калі не навернешся да Бога.

Чаго-ж ты бядуеш, што ня ўсё ідзе табе так, як ты-бы хацеў? Ці-ж ёсьць хто такі, каму ўсё было-б паводля яго волі?

Шчасьце чалавека ня ў тым, каб мець шмат усялякае дачаснае маемасьці — хопіць яму, калі мае ўмеру.

Кажуць слабыя і недалужныя: «Гляньце, як добра жыве гэны чалавек! Які ён багаты, які вялікі, які магутны ды слаўны!»

Але глянь на нябесныя скарбы і ўбачыш, што ўсё гэтае дачаснае — адна марнасьць, усё яно няпэўнае, а на'т можа быць нам цяжарам, бо ніколі не валадаем ім бяз клопату і страху...

Бяда тым, што не бачаць сваей марнасьці! А яшчэ большая бяда тым, што любяць гэтае мізэрнае і марнае жыцьцё.

Што будзе з намі ў канцы нашага жыцьця?..

дзі становяцца шаблённымі і пераходзяць у бунты, анархію і гвалты».

Далей Папа выразіў сваё вялізнае зьдзіўленьне, што так многа салідных грамадзян, настаўнікаў і адказных урадоўцаў не пачувае ў сабе дастатковай энэргіі, каб бараніць і ажыўляць спадчыну цывілізацыі. А ўсё гэта Папа выказвае не дзеля таго, каб папсаваць калядны настрой, але каб памагчы людзям зразумець, што зямное валадарства і разьлік на людзкія толькі сілы павінны ўступіць НАДЗЕІ НА ХРЫСТА-ГОСПАДА — ЗБАЎЦЫ СЬВЕТУ».

«Наш голас — кажа — ёсьць голасам прыяцеля, які хоча, каб усё гэта было пачута — не дзеля таго, хто гаворыць, але што гаворыцца. Кажу гэтае таму сьвету, які думае, разумее, церпіць і чакае...»

«Маем старацца аб супакой Хрыстовы на зямлі, які ня ёсьць нейкай дададзенай гуманітарнай фразай, але ёсьць вартаўнікам людзкога права».

*

РЫМ-ВАТЫКАН: Нядаўна Папа абʼявіў, што наступны (ўжо II-гі) Сынод Біскупаў адбудзецца ў кастрычніку, — (пачатак 11. X. 1969). Задачай яго будзе — памагаць Папе ў рашэньні самых важных праблемаў у Царкве. Такі Сынод ёсьць як быццам Саборам у мініятуры, бо гуртуе Біскупаў-прадстаўнікоў ад эпіскапату з усяго сьвету. І гэты Сынод уважаецца за надзвычайны, якія склікаюцца ў выпадках найважнейшых патрэбаў у Каталіцкай Царкве.

*

Загадам Паўла VI-га паднята пэнсія працаўнікоў у Ватыкане — ад 5-ці да 20%: найбольш з гэтага скарыстаюць сьвецкія работнікі, а пэнсіі некаторых кардыналаў будуць нават зьніжаныя.

*

ВАТЫКАН — ЯПОНІЯ: Магчымасьць паездкі Папы ў Японію. Загаварылі аб гэтым паважна, хоць яшчэ справа ня ўстаноўлена, што Павал VI-ы мае прыняць запрашэньне ў Японію на 1970 год — у гадавіну скіненай атамнай бомбы на Гірашыму і Нагасакі 25 год таму (у 1945). Асабліва гэта было-б актуальным, калі-б магло прычыніцца да ўтаймаваньня атамнай зброі і ўмацаваньня міру ўва ўсім сьвеце.

*

ВАТЫКАН — ІЗРАЭЛЬ: Пасьля нападу ізраэльскіх самалётаў на Бэйрут у Лібане, дзе было спалена 13 арабскіх самалётаў, Папа выразіў свой жаль з прычыны нападаў і помсты на Сярэднім Усходзе, што можа прычыніцца да працяглай вайны, а небасьпека магла-б пашырыцца на ўвесь сьвет. Да Лібану Папа выслаў свой спагад.

Фактычна крытыка Ватыкану адносілася да аднэй і другой варожых старон — да Ізраэля і Лібану, але Ізраэль асудзіў гэта на сваю некарысьць і падобна рэагавала прэса на Захадзе, асабліва ў Англіі.

У гэтай самай справе Павал VI-ы прыняў візыту д-ра Нагума Гольдмана, прэзыдэнта Сусьветнай Жыдоўскай Рады. Гольдман пасьля сказаў прадстаўнікам гэтае Рады, што астаўся здаволены гутаркай з Папам і што справу можна ўважаць за выясьненую, тымбольш, што ў сваей прамове да ўсяго сьвету Папа асудзіў падобныя напады і помсты абедзьвюх старон.

*

ВАТЫКАН — ІТАЛІЯ: Калядамі Папа адправіў начную літургію, «Пастэрку», ў гор. Таранто, ў паўдз. Італіі для работнікаў найбольшай на сьвеце сталёўні. Прамаўляючы да работнікаў, Папа падтрымаў іх у намаганьні большае справядлівасьці ў працы і расплаце. І гаварыў аб тым, што няма ніякае перашкоды ў абавязках работніка і хрысьціяніна, бо Царква верна стаіць у абароне праўды і заступаецца за пакрыўджаных.

Пасьля Папа прыляцеў у Рым, каб адправіць другую літургію ў базыліцы сьв. Пятра, дзе таксама меў прамову да 200 тысяч сабраных на плошчы залітай сонечным сьвятлом. Закрануў думку, што ў такім трывожным часе чалавек мусіць адрадзіцца ў Духу Хрыстовым, бо і Сын Божы стаў Чалавекам, заклікаючы людзтва да адраджэньня. Калядная «Ціхая Ноч» напамінае нас да супакою і міру ў семʼях, між народамі і дзяржавамі ўсяго сьвету.

*

ІТАЛІЯ — РЫМ: Адказ неспакойным сьвятаром. Трывае час вельмі неспакойны, дык нярэдка спатыкаем неспакойных сьвятароў, асабліва маладых, якія і самі ня ведаюць, чаго ім трэба. Такі сьвятар пытаецца сябе і іншых:

Ці я ёсьць тым, кім павінен быць? Ці я раблю, што павінен? І ці стаю на сваей пазыцыі?..»

Павал VI-ы ім адказвае: «Спаўняй тое, што кажа Царква! Ня шукай новага месца ці новай пазыцыі, бо і на гэтай ты можаш быць добрым і сьвятым! Ня вер людзям лішне разумным, якія абяцаюць табе лепшае месца ці становішча, бо Госпад Бог дае табе вялікі гонар быць сьвятаром і нагэта цябе паклікаў!..»

*

Мадэрны п а р т р э т Хрыста. Праяўляецца цяпер манера прадстаўляць Хрыста як вельмі добрага, разумнага, дасканалага чалавека. Уяўляюць у ім толькі тое, што дёгка зразумець.

Але нядаўна Папа выступіў супраць такой тэндэнцыі. Сказаў, што Хрыстос ня ёсьць толькі ч а л а в е к а м, хаця і вельмі дасканалым.

«Хрыстос — сказаў Папа — ёсьць Сынам Бога жывога! Вера ня можа быць агранічана тым, што можна зразумець. Хто апісвае Хрыста толькі як вельмі добрага чалавека, тэй ніякай прыслугі хрысьціянству ня робіць, бо Хрыстос ня дасца мерыць людзкой мерай».

ТЫДЗЕНЬ МАЛІТВАЎ пра адзінасьць веры. Як звыкла, кожны год ад 18-га да 25-га студня, так і сёлета гэты тыдзень пасьвячаецца спэцыяльным малітвам за згоду і любоў між хрысьціянамі. Асабліва ў Рыме адбываюцца маленьні ў сьвятынях, «каб усе былі адно!» А ў касьцеле сьв. апостала Андрэя адпраўляюцца па дзьве літургіі ў адзін дзень у розных абрадах: там можна быць на літургіі румынскай, славянскай, абісынскай, маранітаў, коптаў, хальдэяў і інш. каталіцкіх усходніх абрадаў.

Там у адной царкве спатыкаюцца хрысьціяне розных вера-вызнаньняў, каб супольна маліцца за адзінасьць веры.

*

ІТАЛІЯ: Біскупы пастанавілі выдаць новы катахізм у 4-х адменах: 1) Для дзяцей перад школай, 2) Для школьнікаў, 3) Для моладзі і 4) Для дарослых. — Праца даручана найлепшым спэцыялістам. Катахізм для дзяцей будзе гатовы ўканцы гэтага году.

А мы скажам, як-жа патрэбны быў-бы такі катахізм у беларускай мове за граніцай, а болей яшчэ на Бацькаўшчыне!

*

АМЭРЫКА — ЗЛУЧ. ШТАТЫ: Статыстыка веры. Аблічаюць там, што на 200 мільёнаў насельніцтва — 98% верацЬ у Бога, 78% прызнаюць жыцьцё па сьмерці, 65% прызнаюць пекла, 60% — і д я б л а! — У 1948 годзе было веручых у Бога 68%, значыць, цяпер справа стаіць лепш. У Эўропе веручых значна менш. (Гальлюп).

*

ІРЛЯНДЫЯ: Біскупы выдалі адозву ў зв'язку з «ДНЁМ МІРУ» (1-га студня): заклікаюць сваіх вернікаў памагаць галодным у краях недаразьвітых эканамічна і культурна. Пісалі: «Хоць наш край небагаты, але мы павінны памагчы бяднейшым ад сябе!».

АНГЛІЯ: Тут Біскупы прыпомнілі вернікам: калі Вялікая Брытанія што год выдае 1313 мільёнаў фунтаў на папяросы, 887 міль. на піва і 630 міль. на іншыя алькагольныя трункі — агулам 53 фунты на асобу ў год, то адна асоба ў Індыі выдае на жыцьцёвыя патрэбы ўсяго 30 ф. у год.

*

ФАО — Міжнародная арганіз. пры Аб'еднаных Нацыях вылічае, што 1/3 частка людзей на сьвеце памірае з голаду, 3/5 часткі недаедаюць і з гэтага западаюць на розныя хваробы — фізычныя і псыхічныя. Што дня памірае людзей 100 тысяч, найбольш з браку аджыўленьня.

Тымчасам 20% насельніцтва трымае ў сваіх руках 80% багацьця цэлага сьвету. І гэта пераважна хрысьціянскія народы навокал Сярэдземнага мора і Атлянтыцкага акіяну.

*

БРАЗЫЛІЯ: Адносіны між урадам і Катал. Царквою становяцца ўсё больш напружаныя. Краіна вельмі багатая, але патрабуе гаспадарскай і сацыяльнай рэформы. Масы працоўных жывуць у вялізнай нястачы і не маюць голасу ў сваей абароне. Багацьце і ўлада — у руках багачоў.

Калі Біскупы і наагул усё духавенства выступае ў абароне беднаты, дык урад гэтае лічыць спрыяньнем камунізму і прасьледуе. Больш дзейных духоўнікаў кідаюць у вязьніцы і прасьледуюць. На пратэсты Біскупаў не зьвяртаюць увагі. Так справа вядзецца да агульнае рэвалюцыі, праз якую таксама найбольш страціць бедната.

Як бачым, з Катал. Царквой ня могуць пагадзіцца ні камуністы, ні капіталісты, бо аднолькава заражаны атэізмам.

## З беларускага жыцьця

### БЕЛАРУСЫ Ў ТЭЛЕВІЗІІ

У пятніцу 29-га лістапада мінулага году ў гад. 6-тай вечарам ангельская тэлевізія БіБіСі паказала праграму прысьвячаную беларусам у Лёндане. Праграма пачалася сцэнаю з сьв. Літургіі ў царкве сьв. Пятра і Паўла ў Марыян Гаўз, якую служыў а. Архім. Леў Гарошка ў саслужэньні з аа. Я. Гэрмановічам і Р. Тамушанскім. Пасьля былі паказаныя беларуская бібліятэка, музэй і школа сьв. Кірыла Тураўскага. Гледачы пабачылі вучняў школы пры працы і адпачынку, а таксама маглі пачуць школьны хор, які прасьпяваў беларускія народныя песьні («Ой ты хмель» і «Там каля млына»). Былі таксама інтэрвью з а. Я. Гэрмановічам, а. А. Надсонам, сакратаром Ангельска-беларускага таварыства сп. Г. Пікардам і з вучнямі сьв. Кірыла. У часе праграмы ангельскі камэнтатар расказаў гледачам аб Беларусі і аб змаганьні беларускага народу за незалежнасьць. Праграма закончылася Беларускім Нацыянальным гімнам.

Беларуская праграма — першая ў гісторыі ангельскай тэлевізіі, — прайшла надзвычай пасьпяхова і выклікала шмат дадатніх водклікаў з боку беларусаў і шматлікіх ангельцаў.

### ЯЛІНКА Ў ШКОЛЕ СЬВ. КІРЫЛА

Традыцыйная ялінка ў Школе сьв. Кірыла ў Лёндане адбылася у суботу 14-га сьнежня. Як заўсёды, была батлейка, выступы хору і аркестра і, бязумоўна, Дзед Мароз. Батлейка — па-

водле тэксту надрукаванага ў часапіса «Беларус» у 1914 г. — была магчыма найбольш амбітнай драматычнай пастаноўкай выкананай вучнямі школы, так пад узглядам даўжыні як і мастацкага афармлення. Трэба прызнаць, што маладыя артысты справіліся з сваім заданьнем



*Ялінка ў Школе сьв. Кірыла. Сцэна з Батлейкі.*

выдатна і паказалі, як шмат можна зрабіць на малой сцэне, калі толькі ёсьць ахвота. Выступы хору і аркестра былі, як заўседы, на высокім узроўні.

Вучні школы сьв. Кірыла мелі вельмі мала вольнага часу ў мінулай чвэрці. Акрамя наву-



*Ялінка ў Школе сьв. Кірыла. Дзед Мароз і дзеці*

кі, яны павінны былі падрыхтаваць канцэрт у Стывэнэдж і выступ у тэлевізіі. Абедзьве рэчы вымагалі шмат працы і высілку. Тым ня меньш яны знайшлі час, каб падрыхтаваць выдатную ялінку і такім чынам зрабіць прыемнасьць Лендансім беларусам, малым і вялікім.

Прызнаньне за посьпех належыцца артыстычнаму кіраўніку а. Рабэрту Тамушанскаму і кіраўніку хору, сп. Г. Пікарду, не гаворачы ўжо аб гаспадыні школы, сп-ні Алене Міхалюк, якая падрыхтавала надзвычай смачны пачастунак, без якога ўвесь вечар страціў-бы шмат сваей прывабнасьці.

## УЛАДЫКА ЧАСЛАЎ СІПОВІЧ У ЛЁНДАНЕ

Я. Даст. Уладыка Часлаў Сіповіч, Апостальскі Візытатар для беларусаў каталікоў, прыехаў 1-га студзеня ў Лёндан на кароткі побыт. Перад тым ён правёў некалькі дзён у Парыжы, дзе затрымаўся на некалькі дзён па дарозе з Рыму, каб адведаць мясцовых беларусаў.

У нядзелю 5-га студзеня Уладыка Часлаў з сьвятарамі Беларускай Каталіцкай Місіі служыў сьв. Літургію ў царкве сьв. Пятра і Паўла ў



*Сьв. Літургія ў царкве св. Пятра і Паўла ў Лёндане 5-га студзеня 1969 г. Уладыка Часлаў Сіповіч гаворыць казаньне*

Марыян Гаўз. У нядзелю 12-га студзеня ў Беларускім Доме ў Лендане адбылося спатканьне Дастойнага Гасьця з беларусамі, зарганізаванае стараньнямі Лёнданскага аддзелу ЗБВБ. Уладыка Часлаў, які нядаўна вярнуўся з кругасьветнага падарожжа, у часе якога ен адведаў ЗША, Новазэляндыю, Аўстралію, Індыю і Сьвятую Зямлю, зрабіў вельмі цікавы даклад, у якім падзяліўся сваімі ўражаньнямі з падарожжа і расказаў аб спатканьнях з беларусамі ў розных краінах сьвету.

У чацьвер 17-га студзеня Уладыка Часлаў адляцеў зноў з Лёндану ў Рым, дзе ён цяпер стала пражывае, як генеральны ігумен закону айцоў Марыянаў.

*

## КУРС БЕЛАРУСАВЕДЫ Ў ЛЁНДАНЕ

У сьнежні мінулага году распачаўся ў Лёндане 3-ці курс беларусаведы, зарганізаваны Ангельска-Беларускім Таварыствам. Лекцыі ў ангельскай мове адбываюцца ў памешканьні Бры-

танскай Акадэміі (British Academy, Burlington House, Piccadilly, London, W. 1).

У чацьвер 5-га сьнежня сп. Г. Пікарда (сакратар Ангельска-Беларускага Таварыства) прачытаў цікавы і зьмястоўны даклад «Ангельска-беларускія зносіны ў 1918—21 гадах», выкарыстўшы ў ім дагэтуль няведамыя дакумэнты, якія знаходзяцца ў Брытанскіх дзяржаўных архівах. У наступным тыдні, 13-га сьнежня, сп-шня Вера Рыч, ведамая з сваіх перакладаў беларускай паэзіі на ангельскую мову, гаварыла на тэму: «Якуб Колас і пачаткі эпічнага жанру ў беларускай літаратуры».

Яшчэ адбудуцца наступныя лекцыі:

23-га студзеня — Р. Фрэнч (з Юнівэрсіты коледж на Лёнданскім Унівэрсытэце): «Геаграфія Беларусі ў 16-тым стагодзьдзі».

13-га лютага — а. А. Надсон: «Баркулабаўскі Летапіс».

7-га сакавіка — А. МакМільлін (з школы Славянскіх Моваў на Лёнданскім Універсытэце): «Аляксандар Ельскі (1834—1916)».

15-га траўня — праф. Р. Отты (прафэсар параўнаўчай славянскай філялёгіі ў Оксфардзе): «Месца беларускай мовы ў вывучэньні параўнаўчай славянскай філялёгіі».

Лекцыі пачынаюцца ў гадз. 7-май вечарам. Уступ вольны для ўсіх.

*

### ЯЛІНКА Ў ПАРЫЖЫ

29 сьнежня прошлага году беларуская калёнія Парыжа ладзіла Ялінку ў доме Белар. Каталіцкай Місіі. Сьв. Літургію адслужыў Архімандрыт Леў Гарошка, на якой быў прысутны Б-п Ч. Сіповіч, які сказаў прыгоднае казаньне.

Сабраліся вернікі ў гэтым-жа доме, дый тут была прыгатавана Ялінка, а хутка такжа пакрыліся сталы.

У сяброўскай бяседзе, пры сьпеве беларускіх песьняў, хутка прабег Калядны вечар.

Дзед Мароз выканаў свой дабрадзейны абавязак, што ўзбудзіла для нас ўсіх радасьць.

Б-п Ч. Сіповіч, карыстаючы з нагоды свайго кароткага прабываньня, разам з а. Архімандрытам адведалі некаторыя беларускія сем'і.

## *З лістоў у рэдакцыю*

АМЭРЫКА – НЬЮ ДЖЭРСІ

Бельмі Паважаны і Дарагі Укладальніку «БШляхам»!

Мая падзяка за ўкладаньне вартаснага часапісу. Гэта нялёгкая праца і натуга. Таму тут, калі Вам спадабаецца, дакідаю крыху да таго самага, аб чым шмат пішацца й што выклікала Энцыкліку „Humanae Vitae".

Errare humanum est.

Людзкім ёсьць мыляцца, але нялюдзкім ёсьць, каб нявінныя цярпелі. А хто-ж церпіць, як не нявінныя дзеці, якім людзтва забараняе радзіцца? Справа перанасяленьня паднята ўпяршыню гаспадарнікамі. Ведаеце Мальтуса, (ён, здаецца, манах?), які прапаведваў, што зямля можа абрушыцца – так шмат на ёй напхаецца людзей, што й голкі ня ўсадзіш, каб хто ня ойкнуў! Дый гэта мела стацца ўжо мусіць гадоў блізка сто таму...

З тых часоў гаманілі, каб абмежыць разрост беднаты: быццам нашто пладзіць жабракоў, калі і з гэтымі бацькі не маюць з чаго жыць! Яно ведама, некаторым недапекам нават жонка – і тае зашмат, каб паправіць у хаце дабрабыт.

Што думаюць вучоныя гэта адно, але што перажыла Румынія за апошнія 10 гадоў?..

Восьжа ў 1958 устанавіла закон, што кожная жанчына мае права на спарон (аборт), калі толькі хоча. Прыблізна ля трох даляраў каштавала ўся апэрацыя: ня пыталіся – хто, што і скуль? – І ўсе былі здаволеныя аж да 1966. У тым годзе быў праведзены першы перапіс насельніцтва Румыніі. Калі-ж убачылі, якое маюць насельніцтва – аслупянелі! Няма дзяцей... За 10 гадоў краіне ня хопіць працоўных, каб утрымаць народ.

Камуністычная ўлада адмяніла ўсе законы: кожная сялянская сям'я мае мець ня менш 3 дзяцей, кожная вучоная – ня менш 4-х! Сяньня ў Румыніі бальніцы заложаны парадзіхамі. На рынку не хапае пялюшак і дзіцячых вазкоў. Кожная жанчына – адно на руках трымае, а другое за ручку.

А чаму гэта сьвятары ў Грэцыі паднялі сапраўдны гармідар аб дзецях? Бо выміраюць парахвіі! У шматлікіх вёсках – толькі самыя старэчы: няма дзяцей. Няма каму працаваць: скора стануць варштаты і фабрыкі і ня будзе каму служыць у арміі...

*

Дык хто вы, што забараняеце радзіцца новым пакаленьням? Вы толькі памагаеце жыць старым, што ўжо пражылі сваё шчасьце, ці людзкому зброду, што марнуе шчасьце!

Энцыкліка Папы Паўла VI-га – правільная! – Яна ёсьць правільная з пункту гледжаньня ўсіх вераў, ня толькі хрысьціянскіх. І правільная з закону прыроднага, лекарскага.

Нашая справа памагчы хворай жанчыне нарадзіць сваё дзіця, а не забіваць яго – дзеля таго, што калісь гэта было раўназначна са сьмерцьцю маці. Яно пэўна, што цяжэй ўратаваць абое.

Гаспадарча таксама тут няма асновы крычаць супраць раджэньня. Мільнёны галодных здараюцца пераважна дзеля грамадзкага парадку-беспарадку, ці дзеля забабонаў. Ды абшары Сахары, Аляскі і іншых земляў яшчэ будуць пуставаць. Таксама марнуюцца прасторы акіянаў, з якіх ужо цяпер магчыма даставаць ураджай еміны роўны добраму полю.

Новая тэхніка ўжо цяпер можа павялічваць жылыя прасторы паўсюдна. Шмат мільёнаў тоннаў вугля і нафты можна перарабляць на еміну, а ня пускаць з дымам... – Значыць, нехта мыляецца, кажучы, што няма ратунку! – Але хто мыляецца?.. – Пажывём – пабачым.

*В. В. Васілеўскі*

ПАРЫЖ

Жадаю Вам Вясёлага Сьвята! Дзякаваць Богу і мы дачакалі гэтага Вялікага Сьвята, толькі вось ня так, як калісьці бывала ў нас, у Друі: ішлі пяшэчкам па сьнягу – па калена! або ехалі на санях – аж убачылі Дом Божы... А там сьвечкі так ясна гарацъ!

А зара едзем дамоў: бачым наш дом накрыты беленькім сьнегам, а зорка сьвеціць на небе, а ў хаце на стале – куцьця... Ах, які радасны бываў той дзень, той вечар! Увесь стол накрыты і на ім настаўлена ўсяго даволі – у поўным камплеце, ды яшчэ стаяла лішняя талерка – можа хто надыйдзе неспадзяваны?..

А тутака на чужых не чакаюць, хіба мо' будзе ад каго падарунак? – або пачастунак?

І нярэдка сьвята абяртаюць людцы на асабістыя інтарэсы, а іншыя – толькі на перадышку, быццам той конь выпражаны ад манэжа. —

*

Цяпер некалькі слоў скажам аб сабе.

Дзякаваць Богу, трымаюся добра, а ўчора, ідучы з работы, заглянуў у касьцёл Сан-Сюльпіс: пастаяў і аддыхнуў душой і целам у гэтай вялічэзнай сьвятыні. Падзякаваў Богу, што мая выстаўка малюнкаў у Салёне ў Парыжы добра прайшла; а цяпер выслаў чатыры малюнкі на Міжнародную Выстаўку на Кот д'Азюр. 19 народаў прыймае ўдзел, а можа і больш, бо яшчэ і беларус учасьнічае - гэты самы Віктар, які гэта піша. Можа спадабаецца, каб і я атрымаў узнагароду. Аднак справа ня ў гэтым! Важней ёсьць тое, што і беларусы не занадбалі прыгожага мастацтва і працуюць у ім дзейна і з паводзінамі.

Паказваю два абразы вялікія: Зіма – у лесе сосны і ёлкі пакрытыя сьнегам. Раніца: сонца асьвячае верхавіны дрэваў ружаватым сьветам, глыбокі шэра-сіні сьнег прыкрывае нізіну.

Другі малюнак: Лета ўжо канчаецца, дрэвы парадзелі, бо ападаюць лісты. Вецер гоніць хмары, але неба яшчэ сіняе і ёсьцека прасьветы жаўтаватага колеру - надзея цяпла і радасьці. Хаця ўжо гэта – апошняе жыцьцё, бо прыйдзе зіма.

Трэці: Вечар. Старыя забытыя два млыны глядзяць у дрыжачую ваду. Сьцюжа і позны вечар. Дрэвы пачырванелі і пажаўцелі. Толькі ёлкі зялёныя паміж парадзелых тапалёў.

Чацьвёрты: Кветкі – чырвоныя, жоўтыя, лільёвыя і сінія. Яны – ў вазе з фарфару, ў цёмным куточку, красуюцца скромна і заўсёды магчыма яны прыгожыя.

*

Дзякую, што ў «Божым Шляхам» вельмі добра знайшліся мае малюнкі: Вясна і Зіма ў бярэзьніку.

Дарагому майму настаўніку Язэпу Гэрмановічу жадаю шчасьлівага і добрага Сьвята Каляд і добрага Новага Году! Каб Бог даў трымацца ў сіле і здароўі як найдалей!

Хутка пабачымся з Айцом Лявонам Гарошкам: вельмі добра будзе супольна памаліцца і пагутарыць.

Гэтым канчаю маё пісьмо. Да хуткага – магчыма – пабачаньня!

З глыбокай пашанаю

*Віктар Жаўняровіч*

22. XII. 1968.

CLARENDON—HILLS

Дзякую Богу – пад апекаю д-ра Гайдзеля - яшчэ жыву, толькі-ж не свабодны: як той цюцька, прывязаны да сваей будкі, бо і доктар і мой супэрыёр не пазваляюць хадзіць па сходах.

А сьвятую Літургію пачаў служыць 30-га кастрычніка, значыць, у дзень свайго нараджэньня і такім чынам пачаў 79-ты год жыцьця! Праляжаў 4 месяцы і яшчэ не здароў: у шпіталі ледзь-ледзь двойчы не памёр!

Падчас хваробы дастаў 4-ты нумар «Божым Шляхам» і ён мне вельмі спадабаўся, асабліва «Думкі аб Сьвятой Тройцы» – аж атрымаў натхненьне пераслаць Вам свае «Думкі аб Асобах Сьвятой Тройцы».

*Мае «ДУМКІ»:* – Адзін Бог ёсьць вечны. Усё другое пачалося толькі тады, калі гэта стварыў Усемагутны Бог. Няма аніякае моцы магутнейшае ад Бога і аніякі мудрэц – мудрэйшы ад Бога!

Калі ня было яшчэ нічога створанага, Бог усё-ж меў што знаць, што любіць і чым цешыцца. Знаючы Сябе як Асобу, Ён знаў і другую Асобу Боства, ўва ўсім Сабе роўную – Божага Сына.

Узаемнае пазнаньне Божых Асобаў ёсьць асновай сьвятых назваў – Бог Айцец і Бог Сын. У іх узаемнай любові выяўляецца існаваньне трэйцяе Асобы – Сьвятога Духа, роўнага Айцу і Сыну. Любоў Сьвятога Духа зусім здаволіла Сьвятую Тройцу і Ёй нічога не бракавала да поўнага шчасьця.

Так было ў працягу вечнасьці – без пачатку і без канца.

Аж вось Бог захацеў таго, чаго ня было: іншага сьвету – часовага, Богу падданага і паслушнага.

Спачатку Бог стварыў сьвет духаў-анёлаў, пасьля сьвет матар'яльны – няжывую і жывую прыроду: ўсім даў аўтаномнае права разьвівацца. А каронай ўсяго стварэньня быў чалавек са зьвярынным целам і анельскай душою.

Чалавечая душа атрымала падабенства да Бога ў тым, што магла пазнаваць, разважаць і тварыць выбар – вольны і свабодны, значыць, мець вольную волю.

З усіх людзей найсьвяцейшая была Дзева Марыя, дачка (прадбачаная) Бога Айца, Маці Божага Сына і Ўлюбеніца Сьвятога Духа.

*Мая »МАЛІТВА«:* Люблю Вас, Божыя Асобы Сьвятой Тройцы! Люблю Вас за Вашую ўзаемную любоў. А люблю тым больш, што Вашая любоў Вас ашчасьлівіла і люблю тым гарачэй, што Вы жадаеце сваім шчасьцем дзяліцца з людзьмі і са мною! І хачу запаліцца Вашай любоўю з усімі мне дарагімі. Аман

*а. М. Урабановіч*

23. XI. 1968.

АМЭРЫКА — Ілліноіс:

Вясёлых Каляд! І шчасьлівага Новага Году! Добра, што ў «Божым Шляхам» успомнілі пра «пігулкі» і пра маладых нездаволеных ксяндзоў. Што гэта робіцца?

Унас тут, у Амэрыцы, Біскупы маюць зьезд, а на дварэ наўкола барадата-валасатыя з гітарамі і разам з маладымі ксяндзамі – «паступовымі», сьпяваюць любоўныя песьні і пляскаюць у далоньні.

Учора на тэлебачаньні нейкі агітатар (не каталік) прамаўляў да групы маладых ксяндзоў – у бальшыні белых, як Каталіцкая Царква крыўдзіць чорных?» Чаму – кажа – няма тут чорнага карды-

нала?» І «калі чорнага выберуць на Папу?» І маладыя сьвятары на гэта згаджаліся... а іншыя дамагаюцца, каб Папа Павал VI-ы пайшоў на пэнсыю!

Цікава, як Вы вучыце рэлігіі? Ці выпадкам не катэхізму? Бо гэта — кажуць — «устарэлы» спосаб. — Мы бачылі тут кніжкі для навукі рэлігіі... Божа! што гэта за навука? — Усяго там поўна: сьвецкіх песьняў, малюнкаў, а слова БОГ успамінаецца надта рэдка. — Чаму?

Пыталіся мы ў маладой амэрыканкі — настаўніцы рэлігіі, як яна вучыць пра Бога? — Яна зрабіла толькі кіслую міну і кажа, што мы ўжо старыя і гэтага не зразумеем...

*

*Н. Н.*

БРАЗЫЛІЯ — Ріо дэ Жанэйро:

Даражэнькі а. Язэп! Жадаю Вам, Рэдакцыі, сьвятаром і братом беларусам, каб добры Бог памагаў усім, ратаваў ад хваробы, бяды і гора і каб Новы Год быў лепшы ад апошняга! —

А ў нас пачалося вельмі гарачае лета, дый парадку няма і мусіць ня будзе, бо кіруе і паношыцца ведамая хэўра: нібы праводзіць рэформы, а ці на лепшае? Беднаце яшчэ горш! Паштальён лістоў ня прыносіць, а начальнік кажа: «Паштальёну трэба плаціць!» — Гэтак урад змагаецца з карупцыяй... — Я яшчэ неяк ківаюся, аднак значна пад-упаў і паддаўся бядзе.

Але дзякую Богу за ўсё і за свае 78 гадоў.

Свой адрас мяняю:

Dr. Joseph Pashkievitch
Poste restante, Niteroi,
Estado Rio — Brasil.

*Увага Рэдакцыі:* Пры гэтай аказіі здыймаецца псэўданім: «Віктар Небядовіч — ёсьць гэты самы *д-р Язэп Пашкевіч.*

ЧЫКАГО:

Сапраўды, (што датычыць тэлебачаньня, на якім вас усіх паказвалі), — нават не запрашаныя — гэта было здарэньне пажаданае для нас і вельмі карыснае.

На маю думку, ангельцы гэтым засьведчылі, што адносяцца з вялікай пашанаю да тых беларусаў, якія на чужыне захоўваюць сваю мову, звычаі і абычаі. І ў «Зьнічу» трэба нешта зьмясьціць у зьвязку з гэтай цікава-карыснай справай.

Учора (8. XII.) прафэсар Адамовіч меў даклад аб сусьветных падзеях, а галоўна аб тым, што робіцца на нашай Бацькаўшчыне, як савецкі хітруюць, каб зьнішчыць нашую мову, а з гэтым і нацыю.

Слухачоў было нямала. Калі рэфэрэнт зьвярнуўся да слухачоў, каб давалі запытаньні, дык адзін бяз слова пяруном уцёк з сабраньня! Ну, гэты дзівак ані нас, ані мы яго не праканаем! —

Ваш дапісчык з Аўстраліі, трэба прызнаць, піша цікава і лёгка чытаецца. Ён піша з Заходняе Аўстраліі, а магчыма бываў і ў Паўдзённай. І калісь пісаў, што ў Аўстраліі няма добрых лясоў, але няхай паедзе — не кажу ўжо — у Квінслэнд, дзе стройныя дрэвы вышынёю да 60 мэтраў і больш, але ёсьць лясы і ў Вікторыі і ў Новай Паўдзённай Валіі. — Але аб гэтым напішу іншым разам.

Далучаю 4 даляраў.

Спадзяюся, што прачытаеце мае грызмолы...

*І. С.*

АМЭРЫКА — Массачузэт:

Дарагі і вельмі Паважаны Айцец Рэдактар!

Віншую Вас з Сьвятам Каляд і Новага Году! Жадаю здароўя, шчасьця і радаснага жыцьця ў Новым Годзе, каб Бог даў сілу працаваць на карысьць нашага расцярушанага па ўсім сьвеце народу. І віншую ўсіх працаўнікоў «Божым Шляхам»; а тым, якія пішуць лісты ў гэты часапіс, вялікі дзякуй, бо з іх мы можам даведацца аб жыцьці нашых суродзічаў у другіх краінах.

Паведамляю, што грошы за прысланыя кніжкі я атрымаў і маю выслаць калядным сьвяткамі, бо якраз буду мець вольны тыдзень.

Ад 14-га ліпня я працаваў па 12 гадзін у дзень, а пошта зачыняецца а 5-ай гадзіне вечара, а я-ж вяртаюся а 7-ай...

І так скрозь цэлымі тыднямі. Ведама, на гэта трэ' было шмат цярплівасьці і вытрываласьці, але ў мяне хапала аднаго і другога. Сяньня куцьця і я яшчэ пайду на 4-ры гадзіны і тады ўжо пайду аж на другі год! А Новы Год прынясе і новае шчасьце: буду працаваць па 8 гадзін і з вольнай нядзеляю, каб пабываць у Царкве і крыху адпачываць...

У палавіне чэрвеня мінулага лета я атрымаў ад Айцоў Марыянаў ведамку, што Ўладыка Чэслаў Сіповіч з Стакбрыдж паведамляе, што будзе ў мяне. Я вельмі з гэтага ўцешыўся, але ня мог спаткаць, бо гэта было-б больш чым сто міль і я страціў-бы цэлы дзень, а я ня мог звольніцца ад працы.

Калі Уладыка затрымаўся ля нашай хаты, запытаўся ў мяне:

— Гэты Вы той, якога я меў спаткаць? На просьбу а. Гэрмановіча я заехаў да Вас.

Я-ж падзякаваў Уладыку і папрасіў зайсьці ў хату. Мы не маглі здаволіцца нашай роднай мовай, а пераходзілі на польскую і ангельскую, або надыйшло да нас нямала палякаў і амэрыканцаў. Што-ж будзем рабіць, калі нам так Бог даў, што мы тут (беларусы) адны? І мы цяпер нікога не хацелі пакрыўдзіць. Але Ўладыка добра ведае сем чужых моваў.

Жанчыны прыгатавалі абед; апрача амэрыканскіх страваў, на стале зьявіўся беларускі жытні хлеб і запраўленая бульба. Ўладыка маліўся ў нашай мове. Калі садзіліся за стол, Уладыка сказаў: «Як бачым, у Амэрыцы есьць што ёсьці!» — А тымчасам, калі прыймалі пасілак, адзін з прысутных, каб ня турбаваць суседзяў, вельмі ціхім голасам засьпяваў:

«Люблю той край, старонку тую,
дзе я ярадзілася, расла,
Дзе першы раз пазнала шчасьце,
Сьлязу нядолі праліла!...»

Пасьля абеду Ўладыка сказаў нам сумную вестку, што ў Рочэстэр ён толькі што пахаваў нашага адзінага генэрала Кушаля. А перад гэтым мы яшчэ ня ведалі аб такой утраце.

Перад ад'ездам Уладыка дарыў кніжкі ў беларускай мове і ў ангельскай аб абвяшчэньні незалежнасьці Беларусі.

І вось Уладыка ад'ехаў, а ў нас астаўся радасны ўспамін аб гэтым мілым спатканьні. Я-ж вельмі ўдзячны Уладыку за ягоную візыту і вялікі дзякуй Айцу Гэрмановічу, што ён так клапаціўся аб нас і прасіў Уладыку, каб ня мінуў адзінокую сям'ю ў далёкай Амэрыцы!

✳

Летам, калі я меў два тыдні адпачынку: я адбываў падарожжа ў Саўт-Рывэр. Мой час быў абмежаваны, аднак мне хацелася туды заехаць: я чуў, што там жыве нямала беларусаў і думаў: «Знайду каго знаёмага!» Але выйшла ня так, бо ў ліпені шмат хто бярэць водпуск і мала хто астаецца дома. Але радасьць мяне ня мінула, бо я пачуў, як сьвятар маліўся у нашай мове і ўспамінаў паднявольную Беларусь. Аж мне жадалася, каб служба трывала ўсю вечнасьць! Але-ж служба скончылася і народ пачаў выходзіць. Стаю я напроць дзьвярэй і пытаю выходзячы з Царквы:

— Ці ёсьць хто з Паставаў?

— А вось а. Дыякан з Паставаў!

Добра! знаёмімся з Дыяканам. А другі быў з Шаркаўшчыны — гэта яшчэ бліжэй! І лёгка было знайсьці іншых з Пастаўшчыны, з Дзісьненшчыны з Вялейшчыны і нават з усходняй часткі нашае Бацькаўшчыны.

Агарнула мяне радасьць, калі я спаткаў маладую жанчыну з Нямеччыны, якая нарадзілася там, а гаварыла па беларуску цалкам граматычна і лёгка.

Яна казала, што ў Саўт-Рывэр ёсьць беларуская школа, дзьве праваслаўныя парахвіі, але ў адной у тым часе ня было сьвятара. Аб гэтым можам пажалець, што ў нас не хапае сьвятароў... І казалі, што беларусы купілі добры кавалак зямлі ў Нью Ёрк'скім штаце, а месца называецца «Бел-Менск».

Пасьля я спаткаў чалавека маладога і спытаўся, якія ён чытае газэты? Ён сказаў, што чытае мясцовую газэту і «Божым Шляхам». Калі-ж я запытаў, ці паслаў ён падпіску, дык ён нясьмела кажа: «Яшчэ не!» Ну, я больш ня пытаўся, што і чаму, бо даведаўся ад іншых, што ягоная жонка хворая і ён сам вычарпаны фінансова. Ведама, я моцна адчуў ягоную труднасьць, бо і сам прайшоў праз хваробы і апэрацыі і мая жонка таксама — аж ледзь мы выйшлі з фінансовай апрэсіі і выкупіліся ад дактароў! Быў час, што і працэнтаў за даўгі ня мелі мы чым выплачваць...

Я падумаў: «Трэба паслаць падпіску за гэтага, які цяпер прыйшоў да галечы, бо і я-ж сам быў такім, а можа хто іншы памагаў рэдактару, каб часапіс ня спыніўся?.. «І Сам Бог ведае, што будзе са мной у будучыні?

✳

У кастрычніку адна нашая знаёмая была ў Сав. Беларусі. Казала, што цяпер значна лягчэй жывецца, чым за «бацькі»-Сталіна. Ведама, далёка яны ад амэрыканскага жыцьця, але ўсё-ж ня тое, што перацярпелі! Бо і хлеба ўжо лягчэй можна купіць. І, калі маеш што прадаць, дык не забаронена. Казала, што тыя, якія працуюць на ўрадах, бяруць шлюбы ў будні дні, а вяселля не спраўляюць — баяцца, каб не даведаліся вышэйшыя і не зьнялі з месца.

У Паставах старая царква разабраная, а ў новай яшчэ моляцца. Каталіцкі касьцёл у Паставах абярнулі на нейкі склад. А ў Андропах ужо зусім няма парахвіі.

Ваш прыяцель *Н-скі*

26. XII. 1968

---

## Новыя выданьні

*«Апокрыф» Багдановіча па ангельску.* (Maksim Bahdanovič, The Apocrypha. Translated from Byelorussian by Vera Rich. Manifold, No. 27, London, Autumn-Winter 1968, pp. 39—41).

Ангельскі часапіс паэзіі «Маніфолд», які выдаецца ў Лёндане, зьмясьціў у сваім зімовым нумары за 1968 год «Апокрыф» Максіма Багдановіча ў ангельскім тлумачэньні Веры Рыч. Тлумачэньне, зробленае ў надзвычай элеганцкай ангельскай мове, аддае выдатна ня толькі зьмест, але і дух арыгіналу. У перадавым артыкуле часапісу «Апокрыф» называецца «найпрыгажэйшым у якой-колечы мове сьцьверджаньнем праўдзівай ролі паэта ў грамадзтве».

Паяўленьне «Апокрыфа» ў ангельскай мове і ў часапісе, які шырока разыходзіцца па ўсім англамоўным сьвеце, зьяўляецца важным укладам у галіну зазнаямленьня заходняга грамадзтва з скарбамі беларускай культуры. За гэта сп-шні Рыч і рэдакцыі «Маніфолд» належыцца шчырая падзяка і прызнаньне.

«Маніфолд» ужо не адзін раз замяшчаў творы беларускіх паэтаў у тлумачэньні сп-шні Рыч. У папярэдніх нумарах былі надрукаваныя на ягоных бачынах вершы Максіма Танка, Анатоля Вялюгіна, Ларысы Геніюш, Янкі Сіпакова і іншых.

*Кніга аб беларускім Сьвятым*

Нядаўна паявілася ў беларускім друку, выданая «Божым Шляхам», кніга аб Сьвятым КІРЫЛУ ТУРАЎСКІМ. Кніжка невялікага памеру — 110 бачын, але вельмі цікавая і цэнная. Гэта ёсьць першая кніга ў беларускай мове аб гэтым Сьвятым, дзеля гэтага падвойна міла бачаная.

Аўтарам кнігі ёсьць а. Ал. Надсон, які ўжо доўгі час вывучае асобу гэтага Сьвятога і аб ім пісаў ужо раней у «Божым Шляху» і нядаўна ў багаслоўскім ангельскім часапісе «Easter Churches Review». І трэба заўважыць, што Аўтар добра споўніў сваю ролю папулярызатара нашага выдатнага Сьвятога.

На пачатку Аўтар падаў кароткі, але даволі зьместоўны, жыцьцяпіс Сьв. Кірыла Тураўскага, а пасьля ў разьдзеле «Пясьняр Божага Міласэрдзя» апісаў яго дзейнасьць як пісьменніка і паэта і наканец як прапаведніка і душпастыра Тураўскай епархіі.

Кніга чытаецца ня толькі з прыемнасьцю з прычыны лёгкага яе стылю і чыстай, натуральнай беларускай мовы, але і з вялікім зацікаўленьнем. Аўтар няпрыкметна ўводзіць чытача ў сучаснае Сьвятому жыцьцё на Беларусі, асаб-

ліва Тураўскага Княства, у яго палітычныя, грамадзкія і рэлігійныя падзеі. Такім чынам асоба нашага Сьвятога стаецца больш канкрэтнай, жывой і зьвязанай з культурай нашага краю. У такой пэрспэктыве можна бачыць лепш маральную і культурна-асьветную веліч і дзейнасьць Сьвятога ў 12-ым стагодзьдзі.

Вялікай дадатняй стараной кніжкі ёсьць тое, што Аўтар не пакідае чытача на яго ўласныя дагадкі, але дзе толькі патрэба, паклікаецца на гістарычныя дакуманты, якія даюць нямала навуковага матар'ялу. Пры гэтым аднак, як мы ўспомнілі, кніжка чытаецца лёгка, бо ўсё крынічныя дадаткі даюцца на маргінэсе аснаўнога тэксту, на сподзе бачын.

Кніга мае яшчэ вельмі вартасны дадатак — малітву і песьні Сьвятога Кірыла, перакладзеныя са стараславянскай беларускай мовы на сучасную а. Язэпам Гэрмановічам. Чытаючы іх можна бачыць вялікае багацьце душы Сьвятога, яго глыбокія пачуцьці і думкі, яго глыбокую веру ў Бога і шчырае набажэнства да Найсьвяцейшай Дзевы Марыі, а таксама і яго вялікія пісьменніцкія здольнасьці. Аўтар кнігі слушна назваў яго Пяўцом Божага Міласэрдзя. Шчасліва зладжылася, што гэтыя рэчы, сапраўдныя пэрлы пачатковай беларускай рэлігійнай паэзіі, атрымалі прыгожую, літарацкую апрацоўку ў сучаснай мове ад а. Я. Гэрмановіча, беларускага пісьменніка і паэты. Ён глыбока і добра ўчуўся ў душу Сьвятога і добра пераказаў ягоныя пачуцьці, так што гэтыя малітвы і песьні могуць і цяпер надавацца да царкоўнага ўжытку і быць натхненьнем для нашай асабістай малітвы.

Цэлая кніга бяз сумніву заслугоўвае на ўважнае прачытаньне і на найшырэйшае распаўсюджаньне.

*а. Ф. Ж.*

---

## Што чуваць на сьвеце?

*АМЭРЫКА*

*Рабэрт Кенэдзі забіты —*
*Трыма кулямі прашыты:*
*Сірот — цэла «Дзесяцёра»,*
*Адзінацца будзе скора.*
*Два браты ляжаць у гробе,*
*Удава адна — ў жалобе.*

*А другой — няшчасьця мала:*
*Замуж зноў затанцавала —*
*За старога,*
*За брыдкога! —*

*Семдзесят гадоў на сьпіне,*
*Сьмярдзяць лапы ў карасіне. —*
*Досыць страху, стыду многа;*
*Але ёй усё — нічога, —*
*Абы грошы —*
*Муж харошы!..*

*АНГЛІЯ*

*Наш у Англіі Вільсон*
*Штоноч мае дрэнны сон:*
*Ніяк, бедны, ня ўпільнуе,*
*Хто там партыю бунтуе?!*
*На яго дэ Голь ківае*
*І ў Эўропу ня пускае!*

*ФРАНЦЫЯ*

*Франк францускі — ў небасьпецы:*
*Мучыць Голя страх авечы:*
*Сам ваюе з дрэнным лёсам,*
*Каб ня выйсьці з доўгім носам!*
*А студэнты ў сваей школе*
*Хочуць малпаваць дэ Голя.*

*МАСКВА*

*Брэжнёў раптам лезе ў Прагу,*
*Але, меўшы ў горле смагу,*
*Папряхнуўся,*
*Пасьлізнуўся:*
*Грунту пад сабой ня чуе —*
*Сам назад ў Маскву танцуе;*
*То Касыгіна ганяе,*
*То здалёк румынаў лае. —*
*Аж знайшоў казла-мікіту:*
*Валіць беды ўсе на Тіту!.. —*

*А Масква, як сілу здвоіць,*
*Сьвет дурны уміг расстроіць!*

*ЭГІПЕТ*

*Нассэр тройчы быў разьбіты,*
*Жыдам кажа: — Мы — ня квіты:*
*Хоць з Эгіпту скура зьдзёрта,*
*Вас паб'ю ў вайне чацьвёртай!*
*— Рукі — то ў мяне свае,*
*Але сіла у Маскве...*
*Хоць жыдоў адважна лае,*
*З бітвы першы уцякае!..*

*ЧЭХА-СЛАВАЦЫЯ*

*«Прага, будзь ты асьцярожна!*
*Бо змагацца так ня можна:*
*Там Палякі і Мадзяры,*
*Масква, Немцы і Баўгары —*
*Пяць дзяржаваў, пяць народаў,*
*А тут Дубчык і ...Свабода!»*

*Танкі пруцца у стройным шыку,*
*Самалётаў там бяз ліку:*
*Больш як тысяча гарматаў*
*І мільёны аўтаматаў!..*
*«Дубчык, згінеш! будзе шкода».*
*Дубчык кажа: «Я — з народам!..».*

*ВАТЫКАН*

*Павал VI-ы быў ў Багоце:*
*Багачом казаў аб цноце,*
*А яны — душой сьляпыя*
*І, як ёсьць, глуха-нямыя!*

*Буржуй ведае, нягодны,*
*Што народ наўкол галодны:*
*А ён золота зграбае —*
*Грашам ліку ўжо не знае!*

*Багачу там добра сьпіцца:*
*Ён і Бога не баіцца! —*
*Рэвалюцыя наскочыць —*
*Ён тады адчыніць вочы. —*
*Бура — грозна,*
*А схавацца будзе позна!*

*СУСЬВЕТ*

*Усход з Захадам — ня ў згодзе:*
*Той на верху, той на сподзе. —*
*Яны множаць сваю зброю: —*
*Бомба ў нас — над галавою!*
*Хочуць зьнішчыць ўсю плянэту*
*І зрабіць нам КАНЕЦ СЬВЕТУ!*
*Што-ж тут будзе?*
*Людзі-людзі,*
*Моцна бійцеся у грудзі! —*
*Вось надходзіць страх бязьмерны:*
*«БОЖА, будзь нам МІЛАСЭРНЫ!»*

*Лявон В-н.*

Лёндан, 13. I. 1969.

# *Роднае слова*

*Пры суседзях у вёсцы нялоўка*
*«Нявучоным» сябе паказаць,*
*І пільнуецца хлопец, каб слоўка*
*Так, як кажуць яны, не сказаць.*

*Мовы ён не забыўся, вядома,*
*Гэтых простых і сьціплых людзей.*
*Толькі ён ужо год, як ня дома,*
*І на дом не ўскладае спадзей.*

*Маці песьню малому сьпявала*
*Пра духмяны ў бары чабарок . . .*
*Песьня сыну нялюбаю стала,*
*Як пакінуў бацькоўскі парог,*

*Ад калыскі знаёмыя рэчы*
*Ён па-іншаму ў хаце заве.*
*Маці туліць хусьцінаю плечы:*
*«Што ж, і пэўна . . . ня ў вёсцы жыве».*

*Ёй ня ў крыўду сынкова пагарда . . .*
*Друг высока абучаны мой!*
*Сёньня матчынай мовы, а заўтра*
*Засаромішся маці самой?*

*Ведай: роднае слова грымела*
*У крывавым агні барыкад,*
*За свабоду адважна і сьмела*
*Заклікала ў паход, як набат.*

*Родным словам мы грознай парою*
*Гуртавалі рады змагароў,*
*З родным словам на вуснах герояў*
*Запякалася алая кроў.*

*За яго паміралі і гіблі,*
*Каб на зьдзекі і глум не аддаць,*
*Каб маглі сёньня песьні і гімны*
*Пра шчаслівую долю складаць!*

1960 г. Ніл Гілевіч

## ПАВАЖНЫЯ ЖАРТЫ

### СПРЭЧКА

1) Пасьля лекцыі ў калгасе «Чырвоны Трактар» адбывалася дыскусія.

ЛЕКТАР: — Бога няма, бо ніхто яго не бачыў. Хто на гэтае што-небудзь хоча сказаць?

ГОЛАС І-ы: — Я скажу! — У нашага Лектара розуму няма, бо ніхто яго не бачыць . . .

ЛЕКТАР: — Але я прынясу пасьведку ад доктара, што я пры поўным розуме!

ГАЛАСЫ: — Прынясі-прынясі ! . .

*

2) На II-ой лекцыі — за тыдзень:

ЛЕКТАР: — Бога няма, бо ніхто яго не бачыў! — А вось пасьведка ад доктара, што я сам пры поўным розуме.

ГОЛАС І-ы: А доктар ваш розум бачыў ?

ЛЕКТАР: — Розуму бачыць немагчыма, бо ён ня ёсьць фізычны прадмет, але толькі дух.

ГОЛАС ІІ-І: — Дык і Бог ёсьць ДУХ, як-жа ты яго хочаш убачыць?

ЛЕКТАР: — Вы тут робіце рэлігійную агітацыю і я буду скаржыцца ! . .

У публіцы падняўся гармідар: пачалі разыходзіцца; а старшыня сходу і лектар пачалі пісаць пратакол на агітатараў.

*

НАРОДНЫ УНІВЭРСЫТЭТ:

Аднойчы савецкі ўрад на Беларусі пачаў будаваць у горадзе Н. вялізарную будыніну. Мейсца было пустое, бо нядаўна разбурылі там цар-

кву і манастыр. Аднак ніхто ня мог даведацца, што будзе ў новым будынку?

Нарэшце адзін цікаўскі дапытаўся ў галоўнага інжынера, які адказаў:

— Тут будзе «Народны Унівэрсытэт».

— А для якіх гэта студэнтаў?

— Для ўсіх, хто заслужыць.

— Як-то «для ўсіх»? А для якога ўзросту? — Ці і для жанчын таксама?...

— Хоць і да соткі гадоў... І для жанчын таксама, бо ў нас роўнасьць для ўсіх.

— Добра! А нашто краты ў вокнах?

— На тое, каб студэнты не ўцякалі з лекцыяў, а цікаўныя каб ня ўлазілі на навуку...

Так дапытлівы больш нічога і не даведаўся. Пасьля аказалася, што будавалі турму, ведама, «для ўсіх».

*

НОВАЕ ПРЫВІТАНЬНЕ:

Савецкая армія ўвайшла ў Чэха-Славаччыну з новым прывітаньнем:

«Пролетарыі всех стран, соединяйтесь! — А то стрелять будем...»

Так прыязна віталі чэхаў па расейску.

А славакаў віталі ў іх мове, таксама сардэчна:

«Пролетарі вшэткых краін, спойтэ са! Інак будэмэ стрелять до вас...».

## «МАЛІТВА» АТЭІСТА

У 1937 годзе Сталін загубіў масу камуна-атэістаў. Пры рэвізіі ў аднаго знайшлі такую «малітву», — дастаў за гэта 10 гадоў!

*

(Уложана на матыў малітвы «Ойча наш...»)

О, ты, Бацька наш, Ленін,
Які ляжыш ў маўзалеі!

Будзь праклятае імя і царства
І ў Маскве ўсё тваё валадарства!

Каб на сьвеце нідзе аніколі
Ня было тваей волі!

А на хлеб у чарзе мы чакаем
І таго на штодзень не хапае.

І адпусьці скарэй нас да дому,
Як і мы ня спускаем нікому!
І на сьледзтве ня ўводзь у спакусу,
Але збаў ад турмы — ад прымусу!

Лямант!...

Напісаў я рукой маей ўласнай —
Інвалід я — няшчасны.
N АБ—998
Сібір, Ангар — Лаг.

Post scriptum — Бацьку-Леніну:

Тады толькі мы скончым жалобу,
Як цябе далоў выкінем з гробу. —
Аман!

*Той Самы*

## ЗВАРОТ ДА ПАВАЖАНЫХ ЧЫТАЧОЎ

(На загадку ў № 1-ым 1968 г. адказ Чытача II-скага):

*Наш Рэдактар ўсьцяж пытае*
*Атрымаўшых «Шляхам Божым»:*
*Хто падпіску занедбае,*
*Шмат збагаціцца тым можа?*
*З Чытачоў хто адгадае?*

*Каб у тым не памыліцца*
*І загадку адгадаці,*
*Трэ' Рэдактарам зрабіцца —*
*Часапіс надрукаваці!..*

*О, Рэдактар! Я — прыблуда:*
*Не плаціў я ані цэнта. —*
*Чалавекам цяпер буду —*
*Заплачу ўсё без лямэнту*
*І залегласьць і працэнты!..*

*Тры даляры з палавінай*
*Зараблю у дзьве гадзіны:*
*На год цэлы на падпіску*
*Гэтых грошаў будзе з лішкай.*

*Я-ж падумаў: «Ці-ж то варта,*
*Каб астацца вінаватым*
*І за гэта г о н а р траціць?»*

*О, Рэдактар, мілы браце!*
*Толькі дзьве гадзінкі працы —*
*Магу з гонарам астацца...*

Адказ Рэдактара:

*Ах, Чытач, наш мілы браце,*
*Трэба гонар шанаваці:*

*Без падпіскі як чытаеш,*
*Ты нас ціха абкрадаеш, —*

*За мільён, ані за кукіш*
*Нідзе гонару ня купіш. —*

*Не ў грашах тут толькі справа:*
*Гонар — ч э с ь ц ь твая і с л а в а!*

---

## ЗЬМЕСТ:



Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b H., München 19, Bothmerstr. 14